*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# ЗВЯЗДА



*Газета выдаецца са жніўня 1917 года*

**Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР**

**23** мая 1991 г. ЧАЦВЕР

№ 99 (21627)

Цана 10 кап.

## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

МІНСК

### У СТУДЭНЦКАЙ КІШЭНІ—ПРЫБЫТАК

**Кабінет міністраў СССР прыняў пастановы: «Аб стыпендыяльным забеспячэнні асобных катэгорый навучэнскай моладзі» і «Аб дадатковых мерах па матэрыяльнаму забеспячэнню навучэнскай моладзі ў сувязі з рэформай рознічных цэн».**

Цяпер паспяваючыя студэнты вышэйшых навучальных устаноў будуць атрымліваць 150 рублёў стыпендыі ў месяц, а тым, хто мае толькі добрыя і выдатныя адзнакі, стыпендыя ўстаноўлена ў размеры 170 рублёў, выдатнікі будуць атрымліваць 190 рублёў у месяц.

Павышаны таксама імянныя стыпендыі. Імя У. І. Леніна і імя Карла Маркса (для ВНУ)—210 рублёў у месяц, а для аспірантаў — 260 рублёў.

Пастановамі прадугледжаны шэраг кампенсацыйных выплат у сувязі з павышэннем рознічных цэн. Напрыклад, студэнтам ВНУ і навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў у перыяд праходжання вытворчай і вучэбнай практыкі будуць выплачвацца сутачныя ў размеры 4 рублі за кожны дзень.

### ВОВА ЕДЗЕ ЛЯЧЫЦЦА

**БАБРУЙСК. (В. Зіноўскі). Некалькі месяцаў назад гарадскі камітэт камсамола звярнуўся да жыхароў Беларусі з заклікам дапамагчы ў фінансаванні паездкі Вовы Ганчарова, які хворы рэдкім відам злаякаснай пухліны, на лячэнне ў адну з клінік Германіі.**

На заклік адгукнуліся жыхары многіх гарадоў і пасёлкаў рэспублікі. Самыя буйныя ўзносы зрабілі калектывы вытворча-тэхнічнага аб'яднання «Будкомплекс» з Мінска, аб'яднання «Бабруйскферммаш» і галаўнога праектна-спецыялізавага канструктарскага тэхналагічнага бюро. Дзякуючы ім сабрана амаль 52 тысячы рублёў і ў бліжэйшы час Вова едзе лячыцца.

### АД «ДАПАМОГІ» АДМОВІЛІСЯ

**ДУБРОЎНА. Мы некалькі разоў ужо паведамлялі аб рабоце кантрольна-прапускных пунктаў па тэрыторыі раёна, дзе неаднаразова спыняліся спробы вывазу за межы рэспублікі дэфіцытных тавараў.**

Як паведамілі нам у прэс-цэнтры Міністэрства ўнутраных спраў БССР, днямі ў дубровенскіх міліцыянераў з'явіліся «памочнікі»: на адзін з КПП прыйшло паведамленне, што невядомыя спрабуюць спыняць машыны, прымяняючы пры гэтым агнястрэльную зброю. Аператыўная група адразу ж выехала на ўказанае месца. Хуліганы, убачыўшы нарад, адстрэльваючыся, кінуліся ўцякаць. Злачынцы былі затрыманы. Імі аказаліся рабочы мясцовага вучэбна-вытворчага прадпрыемства сляпых і яго брат—жыхар Оршы. Канфіскавана незарэгістраванае паляўнічае ружжо і патроны да яго.

### РАБОТА—ЯК СВЯТА?

**ГРОДЗЕНСКІ РАЁН. (А. Дук). У скідальскае бюро па працаўладкаванню насельніцтва звярнуліся першыя «ахвяры» рыначнай эканомікі—8 чалавек, якія нядаўна страцілі работу. У асноўным жанчыны.**

**Тым часам усім буйным прадпрыемствам Скідаля—бройлернай птушкафабрыцы, хлебакамбінату і іншым тэрмінова патрабуюцца рабочыя рукі.**

### ПА СІСТЭМЕ РАДЖ-ЁГІ

**БРЭСТ. (М. Панасюк). Курс медытацыі па сістэме Радж-ёгі пачалі чытаць у Доме ветэранаў, нядаўна пабудаваным у новым мікрараёне «Усход», выкладчыкі Сусветнага Духоўнага Універсітэта Брама Кумарыса (ён знаходзіцца ў Індыі, штат Гаджастан) Дзідзі Чакрадхары, брат Віджай.**

У вучэбнай праграме ўдала спалучаюцца этыка, практычная псіхалогія, філасофія, сацыялогія, многія іншыя прадметы ў якасці адной інтэгрыраванай сістэмы.

За два апошнія дзесяцігоддзі ў 67 краінах свету адкрыта больш дзвюх тысяч філіялаў універсітэта, у тым ліку ў Маскве, Ленінградзе, Пярмі. Такі філіял—дарэчы, першы ў нашай рэспубліцы — у недалёкім часе будзе дзейнічаць і ў горадзе над Бугам.

### АДДАЧА З ДАЧЫ

**МАГІЛЁЎ. (А. Санчук). У вобласці хутка расце колькасць дачных участкаў паблізу гарадоў. Сёлета садовым таварыствам ужо перададзена 259 гектараў зямлі. Акрамя таго, насельніцтву выдадзена 674 гектары ворыва «пад агароды», а дакладней пад бульбу. Многія гараджане змаглі расшырыць свае ўчасткі з 4—6 да 10 сотак.**

Усяго на Магілёўшчыне дачы цяпер ёсць у 53.600 сем'яў. Падлічана, што ў папярэднія гады яны атрымлівалі 18,7 тысячы тон агародніны і бульбы, 15,3 тысячы тон пладоў і ягад. Можна прагназіраваць, што ўжо сёлета аддача дачных сотак прыкметна ўзрасце. Пасля павышэння рознічных цэн многія не толькі пастараліся расшырыць агароды, а пачалі трымаць на сваіх участках трусоў, курэй і нават свіней.

### ТРАГІЧНЫ ВЫБУХ

**ДЭЛІ. Сусветныя інфармацыйныя агенцтвы перадалі з індыйскай сталіцы сумную вестку: перад пачаткам сустрэчы з выбаршчыкамі ад выбуху бомбы загінуў вядомы палітычны дзеяч гэтай краіны, адзін з рэальных прэтэндэнтаў на пасаду прэм'ер-міністра Раджыў Гандзі, які раней на працягу некалькіх гадоў узначальваў кабінет міністраў.**

**Нагадаем, што восенню 1984 года ад рук тэрарыстаў загінула яго маці, тагачасны прэм'ер-міністр Індзіра Гандзі, а яшчэ раней ад выбуху бомбы, закладзенай у самалёт, і старэйшы брат.**

## *Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР*

### Аб парадку асвятлення сродкамі масавай інфармацыі работы чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

1. Утварыць рэдакцыйную камісію чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання ў колькасці 9 народных дэпутатаў Беларускай ССР:

**Голубеў** Валянцін Фёдаравіч
**Дземідзенка** Валерый Аляксандравіч
**Дзейка** Леанід Іванавіч
**Паўлоўскі** Аляксандр Іванавіч
**Папоў** Юрый Мікалаевіч
**Саковіч** Васіль Андрэевіч
**Сасноўскі** Міхаіл Барысавіч
**Сушкевіч** Баляслаў Іосіфавіч
**Шкапіч** Павел Паўлавіч

2. Дзяржаўнаму камітэту Беларускай ССР па тэлебачанню і радыёвяшчанню весці прамую трансляцыю па тэлебачанні і радыё толькі ў першы дзень адкрыцця сесіі, у наступныя дні пленарных пасяджэнняў асвятляць работу сесіі ў інфармацыйных тэле- і радыёвыпусках, а таксама ў спецыяльных тэле- і радыёрэпартажах працягласцю да 1,5 гадзіны кожны.

3. «Народнай газеце», газетам «Звязда», «Советская Белоруссия» публікаваць даклады і садаклады, законы, пастановы і іншыя заканадаўчыя акты, прынятыя сесіяй, шырока асвятляць ход яе работы.

Афіцыяльныя паведамленні аб рабоце сесіі для сродкаў масавай інфармацыі рыхтаваць БЕЛТА з удзелам рэдакцыйнай камісіі сесіі.

4. Даручыць рэдакцыйнай камісіі сумесна з калегіяй Дзяржтэлерадыё БССР у неабходных выпадках уносіць прапановы аб змяненні парадку асвятлення сродкамі масавай інфармацыі работы чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання.

5. На пасяджэнні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дапускаюцца прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі, акрэдытаваныя пры прэс-цэнтры Сакратарыята Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, або журналісты, якія маюць разавыя запрашэнні, выдадзеныя прэс-цэнтрам.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР**
**М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**

21 мая 1991 года. г. Мінск.

# ПРАДУХІЛІЦЬ РАЗВАЛ ЭКАНОМІКІ, ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ ЛЮДЗЯМ НАДЗЕЙНУЮ САЦЫЯЛЬНУЮ АБАРОНУ

### *Даклад Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР В. Ф. КЕБІЧА на IV сесіі Вярхоўнага Савета БССР*

Паважаныя народныя дэпутаты!

Сёння нам трэба паспрабаваць — і акалічнасці да гэтага вымушаюць — ацаніць абстаноўку спакойна, узважана, прыкладваючы максімум намаганняў, каб зразумець адзін аднаго і правільна вызначыць сваю пазіцыю, як нам быць далей. Вядома, не будзе вялікім адкрыццём, калі я скажу, што многае з таго, што мы раней задумвалі, не ўдалося зрабіць. Не ўдалося, перш за ўсё, утрымаць вытворчасць на стабільным узроўні. Не ўдалося насыціць спажывецкі рынак. Ёсць адставанне ў рэалізацыі чарнобыльскай праграмы. Ды і наогул, нягледзячы на меры, прымаемыя ўрадам рэспублікі, не ўдалося ў максімальнай ступені засцерагчы нашу эканоміку ад усесаюзнай разрухі. Ёсць нямала прычын, якія ляжаць за рамкамі нашага ўплыву.

Гэта перш за ўсё абрушанае на нас цэнтрам залпавае павышэнне рознічных цэн, пры якім рэспубліка засталася сам-насам з неабходнасцю арганізацыі сродкаў прыкрыцця ў выглядзе сацыяльнай абароны. Або, скажам, пры ўсім разуменні патрэб шахцёраў, хіба можна было меркаваць, што вынікі іх забастоўкі вырастуць у такую масу націску на ўвесь эканамічны ланцуг, які прывядзе да паўсюднага парушэння рэсурсных паставак у рэспубліку.

Становіцца ўсё больш відавочным, што мы стаім перад эканамічным крызісам, і яго грозныя разбуральныя сімптомы ўсё больш заяўляюць аб сабе. І самае страшнае, што яны пачалі адбівацца на жыццёвым узроўні насельніцтва.

Урад з разуменнем адносіцца да таго, што хвалюе сёння людзей, стараўся і стараецца зрабіць усё магчымае, а часам і немагчымае, каб аблегчыць цяжар ношы, якая лягла на плечы народа. Але ачаг напружанасці да канца не патушаны. Грамадства неспакойнае. Нельга заплюшчваць вочы і на тое, што паявілася праслойка, якая паразітуе на агульнадэмакратычных працэсах, гатова з любой прычыны весці бясконцыя шумныя перапалкі, толькі б не працаваць. Само па сабе зразумела, як гэта адбіваецца на вытворчасці і штодзённым жыцці.

Няхай ні для каго не здасца банальным, калі я нагадаю, што эканоміка — гэта аснова асноў. Упусцім яе — немінучая катастрофа, развал ва ўсім, хаос, разгул злачыннасці, анархія, голад, поўная дэградацыя. Паўстае пытанне, каму гэта патрэбна?

Тое, што ў нас паявілася многа партый, палітычных плыней, незалежны рабочы рух — гэта рэальнасць, і з ёю неабходна лічыцца. Але я цвёрда перакананы: нягледзячы на адрозненні ў палітычных поглядах, нам неабходна развіваць тое, што аб'ядноўвае ўвесь народ, а не тое, што разводзіць па кутках, расцягвае на кавалкі інтарэсы высокага парадку. А гэта — наша рэспубліка, яе цяперашняе і будучае. І народ нам не даруе, калі мы адмовімся ад гэтай святой справы і, не дай бог, разбурым рэспубліку, не зможам узняць, зрабіць эфектыўнай яе эканоміку.

Абвешчаны намі суверэнітэт — гэта не дэкаратыўны лозунг. Гэта велізарная адказнасць, аснова ўсіх нашых дзеянняў, а тым больш стратэгічнага характару. І ўся наша работа павінна быць накіравана на тое, каб забяспечыць суверэнітэт рэальна, на справе.

Але пры гэтым мы павінны прызнаць, што Беларусь не зможа вырашаць свае праблемы без актыўнага ўзаемнага абмену прадуктамі працы і навукова - тэхнічнай думкі з іншымі рэспублікамі. Наша эканоміка тэхналагічна прасякнута велізарнымі патокамі кааператыўных сувязей. Калі іх цалкам разбурыць, разарваць, нікому карысці не будзе. Тым больш, што ўся сучасная сусветная эканамічная сістэма пабудавана на шчыльных эканамічных сувязях і тым і моцная. Навошта ж нам грэбаваць гэтым?

(Працяг на 2-й стар.).





Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ і Я. ПЯСЕЦКАГА.

### *ПАСТАНОВА Вярхоўнага Савета Беларускай ССР*

**Аб прызнанні паўнамоцтваў народнага дэпутата Беларускай ССР, выбранага 28 красавіка 1991 года**

Разгледзеўшы прадстаўленне Мандатнай камісіі, Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Прызнаць паўнамоцтвы выбранага 28 красавіка 1991 года ад Столінскай выбарчай акругі № 139 народнага дэпутата Беларускай ССР **Чэха** Георгія Данілавіча.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР**
**М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**

21 мая 1991 г.
г. Мінск.

# Парламент вызначыў арыенціры

### *З сесіі Вярхоўнага Савета БССР*

Сённяшняя атмасфера плошчаў і вуліц гарадоў перанеслася і ў залу пасяджэнняў беларускага парламента. У гэтай атмасферы найперш варта адзначыць два кірункі: пошукі шляхоў да выйсця з сітуацыі, у якой апынулася наша рэспубліка, а, значыць, і кожны з нас; і барацьба за ўладу, што, несумненна, таксама неабыякава для кожнага чалавека.

Пошук рэальных шляхоў пераадолення крызісу наперадзе — ён прадугледжаны літаральна ў кожным пукце парадку дня сесіі. А вось барацьба за ўладу, на маю думку. павялася з самага пачатку работы сесіі...

Амаль што за сем з палавінай дзесяцігоддзяў існавання Савецкай улады змагацца за яе мы не навучыліся. Ні на адным, нават самым высокім узроўні, не кажучы ўжо пра тыя самыя плошчы і вуліцы. Барацьбой за ўладу ў такой форме, як гэта робіцца сёння ў нас, мы найперш б'ём самі сябе — рублём ва ўласным бюджэце, стратамі ў нашым жа дабрабыце. Скажу адразу і адназначна: на жаль, не ўсе разумеюць гэта і ў парламенце.

Атмасфера на сесіі ў першы ж дзень работы была напалена да мяжы. Здавалася, вось-вось знойдзецца аратар, кіне — жадаючы таго ці не — «іскру» і... Дзякуй богу, «іскрамётнага» прамоўцы ў зале не знайшлося (хоць стаць такімі некаторыя былі не супраць, але не хапіла аргументаў), і сесія за дзень работы зацвердзіла, нарэшце, свой парадак дня...

Як мы паведамлялі ўжо, Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прапаноўваў уключыць на разгляд сесіі 34 пытанні. Да адных з іх заўваг не было наогул, іншыя выклікалі пэўныя каментарыі і тлумачэнні... Але вось дайшлі народныя дэпутаты БССР да пытання пад нумарам 27, і ў зале стала горача. А фармулявалася пытанне так: «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Беларускай ССР у адпаведнасці з прапановамі органаў і асоб, якія маюць права заканадаўчай ініцыятывы, а таксама запатрабаваннямі працоўных і ўдзельнікаў мітынгаў і забастовак, што мелі месца ў красавіку 1991 года ў рэспубліцы». Здавалася б, усё тут зразумела. Аднак да пытання дадаваўся пералік праектаў пастаноў, які, уласна, і выклікаў буру спрэчак.

Пералік праектаў пастаноў прадугледжвае прыняцце дванаццаці заканадаўчых актаў. Сярод іх — «Аб дэпартызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый», «Аб дэпалітызацыі праваахоўных органаў», «Аб уласнасці КПСС — КПБ» і іншыя. І калі да іншых прэтэнзій ні ў кога па-сутнасці не было, дык пералічаныя тры праекты выклікалі розныя пункты гледжання.

Народныя дэпутаты БССР А. Камай і В. Ціхіня прапанавалі гэтыя праекты не разглядаць. На думку доктара юрыдычных навук Ціхіні, патрабаванні аб дэпартызацыі і дэпалітызацыі носяць антызаконны характар, а праводзіць інвентарызацыю любой маёмасці, у тым ліку і Камуністычнай партыі, маюць права толькі суд і арбітраж. Іншы падыход да гэтых пытанняў быў у дэпутатаў ад апазіцыі БНФ С. Навумчыка, С. Антончыка, Я. Новікава і іншых: разглядаць пытанні і кропка! Памяркоўнасць і паразуменне, як гэта здаралася даволі часта і на папярэдніх сесіях Вярхоўнага Савета рэспублікі, унеслі старшыні Камісій парламента Д. Булахаў і У. Леўчык. Сутнасць іх перакананняў зводзілася да таго, што ўключэнне ў парадак дня пытанняў аб дэпартызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый, аб дэпалітызацыі праваахоўных органаў і аб уласнасці КПСС — КПБ проста неабходна, што народныя выбраннікі павінны адчуваць адказнасць перад выбаршчыкамі, многія з якіх паставілі менавіта гэтыя праблемы ў час нядаўніх мітынгаў і забастовак.

Акрамя 34 пытанняў, прапанаваных Прэзідыумам Вярхоўнага Савета, уносілася яшчэ каля дваццаці — як ад парламенцкай апазіцыі Беларускага народнага фронту, так і ад Камісій, асобных дэпутатаў. Кіраўніцтва Вярхоўнага Савета аднеслася да разгляду іх узважана і памяркоўна. Свае думкі выказвалі як самі аўтары прапаноў, так і ўсе жадаючыя. І лёс тых пытанняў аказаўся розным. Так, у прыватнасці, не знайшлі падтрымкі ў большасці народных дэпутатаў БССР прапановы апазіцыі БНФ разгледзець на гэтай сесіі пытанні аб праекце Закона аб выбарах у рэспубліцы, аб савецкім войску і вайсковай службе на тэрыторыі БССР, аб недаверы Прэзідыуму Вярхоўнага Савета і Савету Міністраў Беларусі, аб наданні Дэкларацыі «Аб Дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР» статуса Канстытуцыйнага закона і іншыя. А вось пытанні аб Дзяржаўнай маладзёжнай палітыцы ў БССР, аб выніках аварыі на Чарнобыльскай АЭС і аб лёсе Магілёўскага спецПТВ дадаткова ўключаны ў парадак дня сесіі.

Такім чынам, арыенціры работы парламент рэспублікі вызначыў. У парадку дня чацвёртай сесіі — 37 пытанняў: надзённых, важных і значных для рэспублікі і для кожнага з нас.

Асобныя народныя дэпутаты рэспублікі імкнуліся распачаць на сесіі дыскусію-спрэчку: якія праблемы ў першую чаргу вырашаць — палітычныя ці эканамічныя. Галасы падзяляліся: у кожнага на гэты конт свая пазіцыя. Нам жа думаецца, што тут выбраннікам народа нявapта падзяляцца на лагеры: адказы на жыццёва важныя пытанні трэба даваць у комплексе.

Учора раніцай чацвёртая сесія Вярхоўнага Савета БССР пачала разгляд аднаго з важнейшых пытанняў парадку дня: «Аб Дзяржаўнай праграме Беларускай ССР па стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароне насельніцтва». З дакладам выступіў Старшыня Савета Міністраў БССР В. Кебіч.

**А. МЯСНІКОЎ.**

# У ПРЭЗІДЫУМЕ КАНТРОЛЬНАЙ КАМІСІІ КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ

На чарговым пасяджэнні прэзідыума Кантрольнай камісіі Кампартыі Беларусі па ініцыятыве Пастаяннай камісіі па кантролю за выкананнем бюджэту КПБ і рэвізіі фінансава-гаспадарчай дзейнасці разгледжана пытанне «Аб стане ўплаты членскіх узносаў у партыйнай арганізацыі навукова-вытворчага аб'яднання «Інтэграл».

У прынятай пастанове адзначана, што партком і кантрольная камісія партарганізацыі аб'яднання ў апошні час сталі больш прадметна працаваць з камуністамі па выкананню імі статутных патрабаванняў, якія датычаць уплаты членскіх узносаў.

Становішча спраў на гэтым участку стала часцей разглядацца на сходах камуністаў, у ходзе індывідуальных гутарак з асобнымі членамі КПСС.

Пры парткоме створана спецыяльная камісія, закліканая садзейнічаць упарадкаванню фінансавай дзейнасці партарганізацый і правільнаму выкарыстанню часткі грашовых сродкаў, якая застаецца ў іх распараджэнні.

Аднак з-за наяўнасці сур'ёзных недахопаў на гэтым участку ўнутрыпартыйнай работы ў апошнія гады, прымаемыя парткомам меры належнага эфекту пакуль што не далі. Гэтаму садзейнічае таксама штучна створаная вакол КПСС нездаровая атмасфера, няспынныя спробы шляхам фальсіфікацый і хлусні стварыць у людзей скажоны вобраз чалавека з партыйным білетам.

Партыйны ж камітэт і бюро партарганізацый на працягу гэтага часу слаба вялі растлумачальную работу сярод камуністаў, у тым ліку і па пытаннях умацавання фінансавай базы партыі, аслабілі кантроль і не прымалі дзейсных мер да тых з іх, хто на хвалі папулізму стаў на шлях грубых парушэнняў партыйнай дысцыпліны.

У выніку больш як 17 працэнтаў камуністаў партарганізацыі маюць запазычанасць, у тым ліку асобныя з іх наогул ухіляюцца ад уплаты партыйных узносаў.

У парушэнне Статута КПСС асобныя пярвічныя партарганізацыі на працягу года самавольна рэзервавалі 50 працэнтаў сабраных партузносаў, якія ў выніку былі накіраваны на аказанне матэрыяльнай дапамогі камуністам, частка сродкаў пералічана ў дабрачынныя фонды і выкарыстана на падпіску партыйных выданняў. Пры гэтым мелі месца асобныя фінансавыя парушэнні.

У прынятай пастанове прэзідыум Кантрольнай камісіі КПБ рэкамендаваў парткому НВА «Інтэграл» распрацаваць дакладную сістэму кантролю і праверкі ўплаты членскіх партыйных узносаў, забяспечыўшы пры гэтым разуменне камуністамі ўзрослай значнасці выканання імі статутных патрабаванняў, разуменне таго, што матэрыяльная падтрымка партыі сёння не проста фінансавае, а важнае палітычнае пытанне. З гэтай мэтай прапанавана ўвесці ў практыку работы партыйнага камітэта і кантрольнай камісіі заслухоўванне сакратароў партарганізацый аб прымаемых мерах па ўмацаванню партыйнай дысцыпліны, а таксама разгляд персанальных спраў камуністаў, якія дыскрэдытуюць сваімі дзеяннямі КПСС. Звернута ўвага пярвічных партарганізацый на неабходнасць паўней выкарыстоўваць прыцягнутыя грашовыя сродкі на масава-палітычную і ідэалагічную работу, а таксама для стварэння фонду абароны інтарэсаў членаў партыі і аказання дапамогі маючым патрэбу камуністам.

Сакратарам партыйных камітэтаў і старшыням кантрольных камісій раённых, гарадскіх і абласных партарганізацый прапанавана ў мэтах удасканалення кантрольна - рэвізійнай работы правесці неабходны комплекс мерапрыемстваў у адпаведнасці з пастановай Сакратарыята ЦК і прэзідыума КК КПБ ад 22.04.91 г. «Аб першачарговых мерах па ўдасканаленню кантрольнай работы і ўмацаванню фінансавай базы Кампартыі Беларусі».

На пасяджэнні прэзідыума Кантрольнай камісіі Кампартыі Беларусі было разгледжана пытанне «Аб ходзе выканання пастановы прэзідыума Кантрольнай камісіі Кампартыі Беларусі ад 8 лютага 1991 г. «Аб публікацыі «І зноў аб прывілеях...» у штотыднёвіку «Аргументы и факты» № 48 за 1990 год».

Адзначана мэтанакіраваная работа кантрольных камісій Гродзенскай абласной, Светлагорскай гарадской, Шклоўскай, Дзятлаўскай раённых і рада іншых партарганізацый па рэалізацыі ўстановак, што вынікаюць з пастановы прэзідыума КК Кампартыі Беларусі.

Звернута ўвага кантрольных камісій Брэсцкай і Віцебскай абласных, Мінскай гарадской партарганізацый на марудлівасць, а ў радзе выпадкаў і фармальны падыход пры разглядзе фактаў парушэнняў і злоўжыванняў службовым становішчам з боку асобных камуністаў.

Зроблена даручэнне старшыням кантрольных камісій абласных, гарадскіх і раённых партарганізацый, партыйным камітэтам прыняць дадатковыя меры па безумоўнаму выкананню пастановы прэзідыума КК КПБ.

Разгледжаны таксама матэрыялы па рэабілітацыі ў партыйных адносінах асоб, неабгрунтавана рэпрэсіраваных у 30—40-я і пачатку 50-х гадоў, у адпаведнасці з пастановай ЦК КПСС ад 11 мая 1988 г. па гэтаму пытанню.

**АДНОЎЛЕНЫ У КПСС (ПАСМЯРОТНА)**

1. Гоз З. А.
2. Клыс Я. Р.
3. Лісецкі Ф. А.
4. Сталярскі І. Н. (Любоўскі С. Б.).

**РЭАБІЛІТАВАНЫ У ПАРТЫЙНЫХ АДНОСІНАХ**

1. Навумчык Ф. Я.
2. Рохкінд Б. Ш.
3. Сіваграк П. І.

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

# ПРАДУХІЛІЦЬ РАЗВАЛ ЭКАНОМІКІ, ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ ЛЮДЗЯМ НАДЗЕЙНУЮ САЦЫЯЛЬНУЮ АБАРОНУ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Ды і немагчыма, як гэта прапануюць некаторыя гарачыя галовы, за адзін-два гады карэнным чынам перабудаваць усю структуру народнай гаспадаркі, перапрафіляваць буйнейшыя прадпрыемствы, рэзка скараціць, скажам, спажыванне металапракату і знізіць нашу залежнасць ад завозу з іншых рэспублік. Пастаноўка пытання ў такой плоскасці, сама меней несур'ёзная.

Зусім відавочна іншае: нам трэба не адмаўляцца ад эканамічнага супрацоўніцтва з іншымі рэгіёнамі, а, наадварот, узмацняць яго, надаваць яму патрэбныя нам якасці, напаўняць новым зместам.

У гэтым плане я расцэньваю як значны крок на шляху будаўніцтва новых эканамічных адносін вядомую красавіцкую сустрэчу вышэйшых кіраўнікоў дзевяці рэспублік з Прэзідэнтам.

Павінен вам далажыць, што гэта была не проста сустрэча. Гэта была цяжкая, амаль дзесяцігадзінная работа. Але яна дазволіла дасягнуць многага. Перш за ўсё ўсімі ўдзельнікамі, уключаючы Прэзідэнта, быў прызнаны за саюзнымі рэспублікамі статус суверэнных дзяржаў і, што не менш важна, гарантавана неўмяшанне цэнтра ў іх унутраныя справы і павага рэспубліканскага суверэнітэту. Прэзідэнт прызнаў прыярытэт рэспубліканскага заканадаўства над саюзным пры разглядзе ўсіх пытанняў, якія датычаць унутраных спраў рэспублік.

Усе ўдзельнікі сустрэчы згадзіліся з тым, што першачарговай задачай у пераадоленні крызісу з'яўляецца заключэнне новага дагавора суверэнных дзяржаў з улікам праведзенага Усесаюзнага рэферэндуму. Прычым тут ёсць такая надзвычай важная асаблівасць. Калі да гэтага часу праект дагавора рыхтаваўся па ініцыятыве цэнтра і, як разумееце, яму належала ў гэтым першая роля, то цяпер становішча прынцыпова мяняецца; у аснову дагавора будуць пакладзены прапановы рэспублік і іменна гэтым будзе вызначацца яго змест.

Як бачыце, і ў разуменні, і ў падыходах адбываюцца карэнныя ломкі. Да гэтага трэба дадаць наступнае. Адносіны з рэспублікамі, якія не падпісалі Саюзны дагавор, будуць будавацца гэтак жа, як з замежнымі дзяржавамі.

Не пазней шасці месяцаў пасля падпісання Саюзнага дагавора будзе падрыхтавана і прынята новая Канстытуцыя, у аснове якой павінны быць палажэнні аб Саюзе суверэнных дзяржаў.

На сустрэчы быў агавораны комплекс іншых праблем, якія закранаюць кардынальныя інтарэсы рэспублік і цэнтра. Гэта, у прыватнасці, датычыць падзелу ўласнасці, фарміравання саюзнага бюджэту, выкарыстання валюты, грашовай эмісіі, расшырэння правоў рэспублік у галіне ліцэнзавання экспарту і вырашэння ўсіх пытанняў, звязаных з заключэннем бартэрных здзелак. І павінен вам паведаміць, што гэтыя дагаворанасці ўжо знаходзяць адлюстраванне ў праграме сумесных дзеянняў Кабінета міністраў і ўрадаў суверэнных рэспублік.

Такім чынам, красавіцкая сустрэча ў значнай ступені дазволіла ачысціць ад туману ўнутрысаюзны палітычны гарызонт. Стала больш ясна, якімі павінны быць нашы дзеянні ў зменлівай саюзнай структуры. Іменна ў гэтым, бадай, адна з важных вартасцей падпісанай у выніку сустрэчы заявы.

Хачу адразу ж рашуча адмесці якія б там ні было нападкі на гэты дакумент і саму сустрэчу. Палітыка — гэта, акрамя ўсяго астатняга, яшчэ і майстэрства кампрамісу. І калі на красавіцкай сустрэчы ўдалося шляхам узаемнага кампрамісу неяк аслабіць, знізіць процістаянне цэнтра і рэспублік, то што ж тут дрэннага?

Без лішняй скромнасці хачу заявіць, што прыняўшы ўдзел у гэтай сустрэчы, я кіраваўся вышэйшымі інтарэсамі рэспублікі і дзейнічаў з усёй паўнатой адказнасці, ускладзенай на мяне як на кіраўніка ўрада Беларусі. З майго боку не было ні на крок адступлення ад прынцыпаў, зафіксаваных у Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце рэспублікі.

У той жа час мы ўлічвалі, што ніякія, няхай нават самыя абнадзейваючыя дагаворанасці з цэнтрам не збаўляюць нас ад неабходнасці выбару шляхоў выхаду рэспублікі са складанай эканамічнай і грамадска-палітычнай сітуацыі. Ніхто за нас нашы праблемы вырашаць не будзе.

З улікам усяго гэтага і падрыхтаваны той дакумент, які вынесены на ваш разгляд — Дзяржаўная праграма па стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароне насельніцтва рэспублікі. Натуральна, яна змяшчае і меры антыкрызіснага характару.

Павінен вам сказаць — яна нараджалася нялёгка. Мы разумелі, што калі ўжо распрацоўваць і прымаць такую праграму, то гэта павінен быць асобы дакумент, які адлюстроўваў бы сумесныя і скаардынаваныя дзеянні па пераадоленню крызісных з'яў у эканоміцы рэспублікі, гэта значыць насіў бы надпартыйны характар, быў агульнадзяржаўным. Толькі ў такім разе ён будзе правільна ўспрыняты большасцю насельніцтва.

У падрыхтоўцы праграмы ўдзельнічала шырокае кола спецыялістаў, вядучых эканамістаў. Быў прапрацаваны не адзін варыянт магчымага развіцця падзей, праведзены вялікія дыскусіі з вучонымі, гаспадарнікамі, дэпутатамі ўсіх узроўняў і, вядома, непасрэдна ў працоўных калектывах. Уважліва разгледжаны прапановы абласцей, Навукова-прамысловай асацыяцыі рэспублікі.

Мы звярнуліся да шэрагу як зарубежных, так і савецкіх вучоных і эканамістаў, якія, дарэчы, прадстаўляюць розныя школы, з просьбай выказаць сваю думку, а проста кажучы — правесці экспертызу нашых распрацовак. Гаворка ідзе аб такіх вучоных, як буйнейшы спецыяліст у галіне эканомікі і кіравання амерыканскі прафесар Норвуд, шырока вядомыя савецкія вучоныя-эканамісты М. І. Шмялёў і Г. С. Лісічкін, і шэраг іншых.

Вядома, пры такім шырокім коле людзей непазбежны роскід думак, ацэнкі дыяметральна процілеглага характару — ад неабходнасці ўзмацнення адміністрацыйнага ўздзеяння да ледзь ці не маментальнага пераходу да рынку з поўнай прыватызацыяй і зняццем усялякіх абмежаванняў росту цэн. Прыйшлося ўсё гэта самым уважлівым чынам вывучыць, супаставіць і выйсці на той варыянт, які цяпер, з нашага пункту гледжання, з'яўляецца найбольш прымальным.

Натуральна, мы свае падыходы супастаўлялі з аналагічнымі распрацоўкамі іншых рэспублік. Шырока выкарыстоўваліся таксама рэкамендацыі канцэптуальнага характару, асабліва па фінансава-крэдытнай палітыцы пры пераходзе да рынку, ацэнцы вынікаў прыняцця тых ці іншых рашэнняў, якія змяшчаюцца ў дакладзе аб стане эканомікі СССР, падрыхтаваным Міжнародным валютным фондам, Міжнародным банкам рэканструкцыі і развіцця, Арганізацыяй эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця, Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця. Адным словам, імкнуліся выкарыстаць усё, што разумна, усё, што нам падыходзіць.

Вялікая работа ў ходзе падрыхтоўкі і абмеркавання варыянтаў праграмы праведзена ў камісіях Вярхоўнага Савета з удзелам членаў урада, Дзяржэканомплана, Мінфіна, Дзяржкампрацы, банкаў, Дзяржкамстата, кіраўнікоў прамысловасці, сельскай гаспадаркі, будаўнічага комплексу. Усё гэта дало магчымасць не толькі ўзбагаціць праграму, што само па сабе вельмі важна, але і самае галоўнае — ужо ў ходзе падрыхтоўкі закласці аснову для аб'яднання намаганняў па яе рэалізацыі. Таму тут я хачу яшчэ раз падкрэсліць: толькі ў тым выпадку, калі ідэі праграмы будуць належным чынам успрыняты, яна зможа ўвасобіцца ў канкрэтныя справы.

Але нават самая добрая праграма дае толькі асноўныя палажэнні задуманага. Натуральна, яна не можа падрабязна адлюстроўваць усё тое, што трэба будзе зрабіць. Таму ўрадам пад праграму распрацаваны спецыяльны, разгорнуты рабочы план дзеянняў, у якім выкладзена канкрэтна, што трэба рабіць, калі, у якія тэрміны і адказныя за выкананне. Ён мае жорсткія часавыя рамкі і патрабуе пільнага, штодзённага кантролю.

Абстаноўка, якая склалася ў рэспубліцы, дыктуе, каб ужо ў бліжэйшы перыяд было спынена зніжэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва, палепшана забеспячэнне прадуктамі харчавання, таварамі першай неабходнасці і медыкаментамі, забяспечаны надзейныя сацыяльныя гарантыі. Зыходзячы з гэтага, урад рэспублікі адмяніў падатак з продажаў на большасць жыццёва важных тавараў. Намі цяпер прапрацоўваецца пытанне — і аб гэтым я ўжо гаварыў на пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета — аб зніжэнні рознічных цэн на ялавічыну, вараныя каўбасы і некаторыя іншыя віды мясных вырабаў. Зрабіць гэта цяжка, але трэба.

Але самае галоўнае, што трэба зрабіць, — гэта прадухіліць зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці, спыніць інфляцыю, прывесці ў парадак грашовае абарачэнне, павесці рашучую барацьбу са стратнасцю.

Прыпыніць гэтыя крайне негатыўныя з'явы, рэанімiраваць нашу эканоміку, прычым нават у адносна кароткія тэрміны, у прынцыпе магчыма. Але для гэтага патрэбны радыкальныя антыкрызісныя меры самага шырокага спектра, і, у прыватнасці, неабходна на пэўны перыяд пайсці не толькі на захаванне, але і на некаторае ўзмацненне непапулярных сёння адміністрацыйных мер, асабліва ў частцы рэгулявання вытворчасці і падтрымання ў ёй неабходных прыярытэтаў. Бо пераход да рынку прадугледжвае моцную выканаўчую ўладу.

Гэта зусім не азначае, што мы адступаем ад генеральнай лініі, якая закладзена ў рэспубліканскай праграме пераходу да рынку. Наадварот. І мы імкнуліся гэту ідэю закласці ў праграму.

Перш за ўсё неабходна, зыходзячы з узнікшай абстаноўкі, унесці сур'ёзныя карэктывы ў дзяржаўны бюджэт рэспублікі. Вы помніце, што на сёлетні год наш бюджэт быў прыняты з дэфіцытам у 3,5 мільярда рублёў. А дзяржаўны доўг, з улікам спісання крэдытных запазычанасцей сельскай гаспадаркі, склаў у разліку на год 5,9 мільярда рублёў. Прычым гэтыя разлікі апіраліся на больш-менш нармальнае развіццё эканомікі ў бягучым годзе, ва ўсякім разе без рэзкіх спадаў.

Калі ж падзеі ў эканоміцы будуць развівацца нават не па самаму дрэннаму варыянту, то экспертныя ацэнкі паказваюць, што бюджэтны дэфіцыт можа ўзрасці ў 1,3—1,5 раза. Таму мы прапануем ужо сёння шэраг канкрэтных мер, якія дазволілі б да канца года захаваць адносную раўнавагу ў фінансавым становішчы рэспублікі.

Напэўна, няма патрэбы цяпер падрабязна выкладаць усе дзеянні надзвычайнага характару, накіраваныя на аздараўленне нашых фінансаў, паколькі гэтаму будзе прысвечаны асобны даклад, але тым не менш пра галоўнае, што да гэтага адносіцца, я павінен сказаць. Відавочна, нам прыйдзецца ў другім паўгоддзі пайсці на тое, каб зэканоміць, скараціць тыя расходы, якія не дыктуюцца крайняй неабходнасцю. Вядома, гэта ні ў якай меры не адносіцца да Чарнобыля. Прыйдзецца прыпыніць фінансаванне рада непершачарговых будоўляў з нізкай ступенню гатоўнасці і, бясспрэчна, тых, будаўніцтва якіх да цяперашняга часу яшчэ не пачата.

Максімальна трэба скараціць кіраўніцкія расходы. Не можам мы больш несці такую цяжкую ношу. І гэта трэба ўсвядоміць усім. Хацеў бы ў сувязі з гэтым звярнуць вашу ўвагу на тое, што з агульнай колькасці кіраўніцкага апарату ў 593 тысячы чалавек у нас амаль 90 працэнтаў занята ў апараце кіравання прадпрыемстваў і розных гаспадарчых арганізацый. Іменна тут велізарны рэзерв скарачэння кіраўніцкіх расходаў. Будзе падвергнуты рэарганізацыі і скарачэнню на 25—30 працэнтаў дзяржаўны, урадавы апарат, а таксама апарат міністэрстваў і ведамстваў.

Мы разлічваем паправіць бюджэт за кошт продажу закансерваваных аб'ектаў, прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў, асабліва ў сферы абслугоўвання, павелічэння платы за лішкі жылой плошчы, расшырэння аўкцыённага продажу асобных прэстыжных тавараў — легкавых аўтамабіляў, мэблевых гарнітураў, складанай бытавой тэхнікі.

Думаю таксама, што мы зробім правільна, калі пераадолеем памылковую прынцыповасць і наладзім выпуск і продаж адносна недарагіх вінна-гарэлачных вырабаў. Гэта і самагонаварэнне прыпыніць, куды ідзе нямала рэсурсаў, і бюджэт папоўніць.

Але і пасля падсумоўвання эфекту ад усіх гэтых мер нам не пазбегнуць дэфіцыту бюджэту, і можа ўзнікнуць пытанне: а дзе дапушчальная мяжа яго? Дзе тая грань, за якой гэты дэфіцыт набывае разбуральны характар?

Пытанне даволі-такі не простае. Я павінен сказаць, што даследаванні такія, асабліва на рэспубліканскім узроўні, раней амаль не рабіліся. У той жа час, як паказвае аналіз рэальнага ходу падзей і вопыт зарубежных дзяржаў, сам бюджэтны дэфіцыт як такі зусім нармальная з'ява для дзяржавы, якая мае шырокія эканамічныя сувязі і разгорнутыя плацежныя адносіны. Галоўнае пры гэтым — дабівацца, каб эмісія грашовых сродкаў не падштурхоўвала інфляцыйныя працэсы.

На жаль, у нашым выпадку мае месца і тое, і другое. Таму ўрад разлічвае, што ажыццяўленне мер, прадугледжаных разглядаемай праграмай, дазволіць утрымаць бюджэтны дэфіцыт на ўзроўні 5—6 працэнтаў ад валавога нацыянальнага прадукту, што ўвогуле, паводле ацэнак спецыялістаў, для эканомікі, якая набывае рыначны тып, пакуль яшчэ не з'яўляецца вельмі небяспечным, але набліжаецца да грані, за якой надыходзяць разбуральныя вынікі.

Вядома ж, трэба ўлічваць і тую немалаважную акалічнасць, што ва ўмовах адзінай грашовай сістэмы краіны кіраваць на ўзроўні рэспублікі бюджэтным дэфіцытам, аказваць уздзеянне ў бок яго стрымлівання вельмі і вельмі няпроста. Бо велізарны ўплыў — і ад гэтага пакуль што нікуды не дзенешся — аказваюць цэнтральныя органы. Станок жа друкарскі ў іх. Эмісіяй можна знешне заблакіраваць любы дэфіцыт і быццам бы загнаць хваробу ўнутр, але яна тут жа вылезе вонкі праз велізарны віток інфляцыі, што мы сёння і маем.

Натуральна, тут само па сабе паўстае пытанне, якое не раз намі ў той ці іншай меры ўзнімалася. Гэта пытанне аб уласнай валюце. Урад неаднаразова з розных бакоў прапрацоўваў гэту праблему, у тым ліку і па лініі стварэння тэхнічнай базы для выпуску ўласных грошай. Але ўсё-такі, ацэньваючы сітуацыю з усімі яе складаемымі, бачыцца тут многа і плюсаў і мінусаў. Пакуль, на жаль, больш мінусаў. Што я маю на ўвазе? Складанасці пачынаюцца не з таго, як надрукаваць грошы, а з таго, як замкнуць на іх увесь эканамічны абарот у рэспубліцы.

Па-першае, яго трэба будзе лакалізаваць. А гэта значыць, мець свае таможні з усёй гаспадаркай, пагранічныя пункты, службы і адпаведныя структуры па сачэнню за курсам сваіх грошай і адносна рубля, і наогул адносна ўсіх іншых валют.

Другі бок пытання заключаецца ў тым, што, увогуле, будучыня ў развіцці ўсіх нацыянальных эканомік — за інтэграцыяй у адзіную эканамічную сістэму, якая давала б магчымасць найбольш эфектыўна выкарыстоўваць патэнцыял рэгіянальных эканомік у іх перапляценні і спалучэнні. Таму ў перспектыўным плане пытанне павінна стаяць не аб утварэнні новых нацыянальных валют, а, наадварот, аб стварэнні на зусім новай аснове адзінай, трывалай валютнай сістэмы. І галоўнае — за гэтай адзінай сістэмай павінен быць поўны кантроль з боку ўсіх партнёраў па адзінай эканамічнай прасторы.

Іменна гэты варыянт найбольш прымальны. Іншая справа, што мы павінны прад'явіць усе патрабаванні, якія аб'ектыўна вынікаюць з гэтага, як да Кабінета міністраў, так і да Вярхоўнага Савета краіны. Грашова-эмісійная палітыка цэнтра не павінна быць тайнай за сямю пячацямі. Мы ўваходзім у Саюз на правах суверэннай дзяржавы. Нам трэба мець усе магчымасці актыўна абараняць свае інтарэсы. Я лічу, мы павінны гэтага дабівацца, і мы гэтага даб'ёмся.

Тым больш, што мы на гэта маем не толькі эканамічнае, але і, увогуле, маральнае права. Рэспубліка ніколі не звярталася да цэнтральных органаў з эмісійнымі просьбамі. Наадварот, калі ўзяць, скажам, нават мінулы, надзвычай цяжкі год, і то, замест эмісіі ў нас было забрана з абарачэння грашовай наяўнасці больш чым 200 мільёнаў рублёў.

Але калі нашы патрабаванні да цэнтра не ўвянчаюцца поспехам, то мы будзем вымушаны, як бы гэта цяжка ні было, актыўна ўзяцца за стварэнне сваёй, аўтаномнай валюты. І адважуся вас запэўніць, такі варыянт дзеянняў у нас ёсць, хоць па раду прычын ён напрамую і не адлюстраваны ў прадстаўленай праграме.

Такі мой пункт гледжання на гэту вельмі складаную праблему.

Нам наогул трэба будзе многае перагледзець у фінансава-крэдытнай палітыцы. Забяспечыць больш устойлівую даходную базу бюджэту за кошт пераходу ад падатку з абароту да падатку на дабаўлены кошт і сістэмы акцызаў.

Ацэньваючы сёння стан эканомікі, у тым ліку і фінансаў, трэба сказаць шчыра: сваімі сіламі, толькі за кошт унутраных магчымасцей, мы з таго становішча, у якім цяпер апынуліся, без страт не выберамся. Нам трэба пайсці на шырокія непасрэдныя кантакты з зарубежнымі фінансава-банкаўскімі і прамысловымі карпарацыямі. Неабходна адкрыць дарогу замежным інвестыцыям.

Самастойныя знешнеэканамічныя сувязі — справа для нас новая, але яна набірае абароты. Распрацаваны праграмы развіцця прыярытэтных напрамкаў эканомікі з прыцягненнем замежнага капіталу, і цяпер актыўна ідзе пошук дзелавых партнёраў. Выказалі намеры пачаць з намі супрацоўніцтва шэраг прадпрыемцаў у ЗША, Германіі, Аўстрыі, Нідэрландах, японскія і тайваньскія фірмы, Паўднёвая Карэя.

Падпісаны міжурадавыя пагадненні аб гандлёвым супрацоўніцтве Беларусі з Чэха-Славацкай Федэратыўнай Рэспублікай і Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікай. Блізка да завяршэння работа над такімі пагадненнямі з Венгрыяй, Славеніяй, Сербіяй.

Мы цвёрда і настойліва дабіваемся, каб рэспубліка мела сваю долю ў тых крэдытах, якія прадастаўляюцца СССР. І трэба сказаць, цэнтр, хоць і неахвотна, але ўсё ж вымушаны рэагаваць на гэтыя патрабаванні. Рэспубліцы выдзелена больш як 50 мільёнаў інвалютных рублёў па крэдытах Іспаніі. Яны пойдуць галоўным чынам на закупку абсталявання для перапрацоўчай прамысловасці. Па італьянскаму крэдыту ў памеры амаль 15 мільёнаў інвалютных рублёў будзе закуплена абсталяванне для вытворчасці дзіцячага харчавання.

Цяпер, дарэчы, завяршаецца распрацоўка праграм шырокамаштабнага эканамічнага супрацоўніцтва Беларусі з гэтай краінай. Яно будзе весціся на аснове мэтавых доўгатэрміновых крэдытаў, прадастаўляемых нам італьянцамі, і для гэтага створаны спецыяльны рабочы орган — асацыяцыя «Італа-беларуская гандлёвая палата».

У апошні час больш дынамічна пайшоў працэс стварэння сумесных прадпрыемстваў. Менш чым за год нашаму Камітэту па знешнеэканамічных сувязях удалося прыцягнуць да супрацоўніцтва ў сумесных прадпрыемствах 54 замежныя фірмы са статутным фондам звыш 40 мільёнаў інвалютных рублёў.

Урад мае намер выкарыстоўваць і такую нетрадыцыйную для нас крыніцу ўмацавання эканомікі, як знешняя пазыка. Але адразу ж хачу падкрэсліць, што нашы намеры атрымаць такую пазыку — і гэта пацвярджаюць сустрэчы з дзелавымі коламі — могуць мець поспех толькі ў тым выпадку, калі нам удасца захаваць у рэспубліцы пэўную стабільнасць, зарэкамендаваць Беларусь у якасці надзейнага дзелавога партнёра.

Атрыманыя ад пазыкі сродкі, — а мы разлічваем на адзін мільярд долараў, — дазволяць актыўна развіць тэхнічнае пераасначшэнне аграпрамысловага комплексу, галін, якія вырабляюць спажывецкія тавары, даць штуршок нарошчванню выпуску лекавых сродкаў і медыцынскай тэхнікі, аснасціць сучасным тэхналагічным абсталяваннем вытворчую базу будіндустрыі, а таксама стварыць магутны экспартны патэнцыял.

Усё гэта аб'ектыўна неабходна. Так, урэшце, рабілі ўсе краіны, якія пачыналі глыбокую мадэрнізацыю сваіх эканомік. Тым больш, што ў нас да гэтага не толькі чыста фінансава - эканамічны інтарэс. За замежнымі інвестыцыямі, як правіла, стаяць новыя тэхналогіі, зарубежны вопыт у кіраванні і арганізацыі вытворчасці.

На жаль, цяпер на гэтым шляху нямала бар'ераў. Перш за ўсё, у рэспубліцы няма прававой асновы, пэўных дзяржаўных гарантый для абароны замежных інвестыцый. Наогул пакуль што няма такога заканадаўства. І нам трэба распрацаваць яго як мага хутчэй, не азіраючыся на цэнтр. Неабходна стварыць зарубежным інвестытарам самыя спрыяльныя ўмовы для таго, каб іменна да нас, у Беларусь, пацяклі валютныя капіталы.

Гэта што датычыць зарубежных дзелавых кантактаў. А хіба ў нас вычарпаны магчымасці міжрэспубліканскага супрацоўніцтва, якое базіруецца не на размеркавальных адносінах праз цэнтр, а на якасна іншай, улічваючай узаемныя інтарэсы аснове?

Некаторыя дагаворанасці наконт гэтага ўжо ёсць. Азербайджан прапануе арганізаваць сумесную перапрацоўку агародніны і фруктаў, Кіргізія — стварыць сумесныя прадпрыемствы па першаснай перапрацоўцы бавоўны. Нядрэнныя перспектывы ў нашых адносін з Казахстанам, які гатоў укласці вялікія сродкі ў стварэнне сумесных прадпрыемстваў па вытворчасці сельскагаспадарчай тэхнікі, разлічваючыся павелічэннем паставак збожжа, воўны, каляровых металаў. Вядзецца работа ў гэтым напрамку з Расіяй, Малдовай і шэрагам іншых рэспублік.

Але ёсць тут адзін момант. Часцей за ўсё і больш за ўсё прапануем не мы, а нам. Некаторыя ведамствы, на жаль, праяўляюць пасіўнасць, чакаюць указанняў і распараджэнняў. Я не задаволены работай некаторых міністраў, супрацоўнікаў урадавага апарату. Уплыў іх на дзейнасць прадпрыемстваў далёкі ад патрабуемага сёння. Ці не таму асобным гаспадарчым кіраўнікам зусім абыякавыя інтарэсы рэспублікі?

Паглядзіце, колькі пакут прыносіць людзям, асабліва мінчанам, кожная паездка ў святочныя або выхадныя дні ў да канца перапоўненых электрычках! Цікава, калі апошні раз ездзіў у прыгарадных паяздах начальнік Беларускай чыгункі С. І. Шкапіч са сваімі намеснікамі?

Мне часта прыходзіць у галаву такая думка: калі ўжо мы распачынаем новую, патрэбную буйную справу, яе ні ў якім разе нельга ўціскаць у старыя, прывычныя структуры. Трэба ісці іншым шляхам. Трэба шукаць па-сапраўднаму прадпрымальных людзей, якія падбіралі б сабе патрэбную каманду і дзейнічалі поўнасцю самастойна. Тады любая праблема будзе вырашацца сапраўды хутка, без затрымак. Натуральна, што гэтыя людзі павінны мець магчымасць і добра зарабіць.

Вось каб так дзейнічаць, то, напэўна, у нас ужо былі б і сумесныя прадпрыемствы з іншымі рэспублікамі, і ўласнае машынабудаванне для перапрацоўчай прамысловасці паявілася б, і многія іншыя праблемы вырашаліся б зусім па-іншаму. Таму ўрад мае намер крута павярнуць і стаць іменна на такі шлях.

Увогуле ж, жыццё падвяло нас да многіх праблем, у тым ліку і да праблемы камплектавання гаспадарчых кадраў на ўсіх узроўнях — ад кіраўнікоў прадпрыемстваў да рабочых.

Што датычыць кіраўнікоў, то з імі да апошняга часу ўсё было ясна. Былі наменклатурныя спісы, пэўны парадак назначэнняў. Дзе ўжо тут да прафесіяналізму! І гэта ў немалой, а можа і ў рашаючай ступені, зрабіла ўплыў на тое, што мы сёння маем.

Які адсюль урок? Трэба неадкладна пераходзіць на гадамі выверанаю ў нармальных эканамічных сістэмах форму камплектавання кадрамі як кіраўнікоў, так і рабочых. Такой формай з'яўляецца найм, замацаваны кантрактам, які з'яўляецца дагаворам паміж работадаўцам і наймаемым работнікам.

Калі гаварыць аб кіраўніках дзяржаўных прадпрыемстваў, то адпаведны кантракт павінен быць паміж органам дзяржаўнага кіравання і наймаемым на гэту пасаду спецыялістам. У тым выпадку, калі прадпрыемства іншай формы ўласнасці, — то, натуральна, кантракт павінен мець месца паміж уладальнікам уласнасці — а гэта можа быць калектыўнае або арэнднае прадпрыемства, ну, і гэтак далей — і наймаемым работнікам.

А далей усё павінна ісці зверху ўніз: адпаведныя кантракты паміж адміністрацыяй, з аднаго боку, і далей па ланцужку — з начальнікамі цэхаў, службаў, змен, аж да лінейнага персаналу.

Праграмай прадугледжана, што кантракты з кіраўнікамі прадпрыемстваў павінны быць заключаны ўжо да 1 ліпеня гэтага года, з іншымі спецыялістамі, рабочымі і служачымі — да канца бягучага года. Такая форма аб'ектыўна нацэлена на тое, каб кожную пасаду займаў чалавек, які сапраўды ёй адпавядае і прыгодны для яе ва ўсіх адносінах. Яна забяспечыць таксама прававую і сацыяльную абарону і кіраўніку, і рабочаму.

Вядома, вельмі многае залежыць ад таго, які кіраўнік. Адно ясна, што ён павінен быць з людзей прадпрымальных, настойлівых і рашучых у сваіх дзеяннях. Інакш кажучы, гэта павінен быць сапраўдны прадпрымальнік. Такімі людзьмі наш народ ніколі не быў абдзелены. Яны заўсёды былі, іншая справа, што ім часта ходу не давалі. Між іншым, яшчэ Даль у сваім слоўніку тлумачыць паняцце прадпрымальніка і называе такія яго рысы, як смеласць, рашучасць, «отвага на дела новые, значительные». Увогуле, гэта тое, што трэба.

Думаю, што кантрактная сістэма вельмі хутка адапціруецца і дасць штуршок да таго, каб колькасць сапраўдных прадпрымальнікаў за кароткі час павялічылася ў шмат разоў. Яшчэ большы эфект будзе атрыманы, калі гэтыя людзі аб'яднаюць свае намаганні. Справа не ў простым складанні сіл. Гэта дазволіць хутчэй стварыць якасна новае гаспадарчае асяроддзе, якое ў далейшым зойме адно з вядучых месц у эканоміцы рэспублікі. Таму ўрад са свайго боку будзе ўсяляк садзейнічаць таму, каб у нас ужо ў самы бліжэйшы час паявіўся саюз прадпрыемцаў.

Чаму я ўдзяліў гэтаму так многа ўвагі? Таму што прадпрымальніцтва — арганічная тканка рынкавых адносін. Яно не можа існаваць без рынку, але і рынак без яго таксама невядома што. Гэта ўзаемапранікальныя структуры, якія адлюстроўваюць і шматукладнасць эканомікі, і імкненне да эфектыўнай працы, і непасрэдную адказнасць за яе вынікі.

Таму, вызначаючы меры па выхаду з крызісу, урад, нягледзячы на тое, што ў нас ёсць спецыяльная праграма пераходу да рынку, палічыў неабходным выйсці на рынкавыя праблемы, з тым каб канкрэтызаваць іх, больш дакладна ўстанавіць тэрміны. Карацей кажучы, даць практычнае праламленне гэтаму важнейшаму напрамку ўсёй нашай дзейнасці.

Вядома, што краевугольным каменем рынку з'яўляюцца розныя формы ўласнасці. Трэба будзе пераўтварыць дзяржаўную ўласнасць у калектыўную, акцыянерную, прыватную і г. д. Справа гэта няпростая. Абстаноўка дыктуе неабходнасць правесці прыватызацыю на здаровай фінансавай аснове і з улікам прынцыпаў сацыяльнай справядлівасці.

Канкрэтныя часавыя рамкі ўстанаўліваць тут наўрад ці трэба. Мы лічым, аднак, што да канца гэтага года можна вывесці з дзяржаўнай уласнасці і перадаць у калектыўнае або асабістае карыстанне да адной чвэрці прадпрыемстваў гандлю. Рэальная задача перадачы за гэты ж тэрмін у арэнду або выкупу майстэрань бытавога абслугоўвання. Актыўна трэба пайсці такім жа шляхам адносна невялікіх прадпрыемстваў, якія выпускаюць спажывецкія тавары і прадукты харчавання, зняць усе абмежаванні на продаж і перадачу на бязвыплатнай аснове жылля. Адначасова будзе набіраць сілу работа па дэманапалізацыі і пераўтварэнню буйных і сярэдніх дзяржаўных прадпрыемстваў у акцыянерныя кампаніі.

Але тут трэба ўлічваць наступныя акалічнасці. Па-першае, было б несправядліва прадаваць насельніцтву асноўныя фонды за кошт яго зберажэнняў. Да таго ж, грамадзяне здольныя набыць на іх не больш як 5—10 працэнтаў асноўных фондаў. Для істотнага ж уздзеяння на эканоміку рэспублікі неабходна прыватызацыя 20—30 працэнтаў фондаў. Па-другое, нельга не браць пад увагу і тое, што далёка не кожны гатоў узяць на сябе адказнасць, якая ўзнікае адначасова з набыццём уласнасці. Таму мы і лічым, што пачынаць прыватызацыю трэба з тых прадпрыемстваў, якія не патрабуюць вялікага першапачатковага капіталу, асаблівых ведаў у галіне сучаснай навукі кіравання. А гэта — магазіны, цырульні, рамонтныя майстэрні. Прычым псіхалагічны эфект такія прадпрыемствы могуць даць немалы — узнімуцца стандарты абслугоўвання, пачнуць адпрацоўвацца новыя гаспадарчыя сувязі.

Патрабуецца таксама эканамічна і палітычна прымальная мадэль прыватызацыі жылля, якая адпавядала б нашаму разуменню сацыяльнай справядлівасці. Трэба ўсведамляць, што гэта асабліва балючы момант, ён закранае ўсе слаі грамадства, і мы ўжо цяпер бачым: ні ў якім разе тут нічога нельга рабіць наскокам. Ва ўрада ёсць адпаведныя распрацоўкі, якія, згодна з Законам аб прыватызацыі, — а яго трэба было б абавязкова разгледзець і прыняць на цяперашняй сесіі Вярхоўнага Савета — можна будзе праводзіць у жыццё.

Мы павінны памятаць, што рынак мае свае жорсткія законы, і рабіць усё для таго, каб сацыяльна абараніць людзей.

Будзем шчырыя: рэформа цэн шэраг праблем сацыяльнай абароны высвеціла зусім па-новаму, падштурхнула, пацягнула за сабой і многія раней існаваўшыя пытанні сацыяльнай неўладкаванасці.

Возьмем сістэму аплаты працы. На працягу многіх гадоў яна не перажывала карэнных змяненняў. Людзям не давалі магчымасці працаваць зацікаўлена, каб адпаведна і атрымліваць. Большую частку прыбавачнага прадукту дзяржава забірала сабе бясплатна, а потым выдзяляла з яго крыху, ды яшчэ выдавала гэта за вялікія даброты.

Урад мае намер рашуча змяніць тут прыярытэты. Ужо ў бягучым годзе павінна быць распрацавана новая рэспубліканская тарыфная сістэма, якая забяспечыць належны ўлік умоў і вынікаў працы, ліквідуе залішнія міжгаліновыя дыферэнцыяцыі ў яе аплаце. Хачу падкрэсліць, што яна не будзе чарговым прэсам, які націскае на працоўныя калектывы. Сутнасць яе ў рэкамендацыйным характары, каб упарадкаваць усю работу па перагляду аплаты працы. Мінімальны ўзровень тарыфаў і акладаў будзе гарантаваным і абавязковым для прадпрыемстваў усіх форм уласнасці. Ніжэй гэтага ўзроўню аплата працы работнікаў апусціцца не можа ні пры якіх выніках гаспадарчай дзейнасці.

Мы лічым, што ў бягучым годзе асноўная заработная плата ў вытворчых галінах павінна быць павялічана мінімум у паўтара раза, а ў 1992 годзе — падвоена. І наогул, хацеў бы заўважыць: у рынкавай эканоміцы ніякіх штучных абмежаванняў ва ўзроўні зарплаты быць не можа. Адзіная мерка — фактычны прырост прадукцыі і прадукцыйнасць працы.

Асаблівай у сістэме сацыяльных гарантый з'яўляецца праблема пенсіянераў. Бадай, гэта адно з найбольш складаных пытанняў. Я напомню, што колькасць пенсіянераў у рэспубліцы сёння 2,5 мільёна чалавек. Сярэдні ўзровень пенсіі з улікам кампенсацыі — 170 рублёў. Калі раней такая лічба рабіла б уражанне, то цяпер, улічваючы падаражанне жыцця, яна зусім недастатковая. Тым больш, што пералік спажывецкай карзіны выводзіць на 270 рублёў. Выхад на ўзровень пенсій, які быў бы не ніжэй пражытачнага мінімуму, будзе ажыццёўлены паэтапна, па меры ўтварэння неабходных для гэтага крыніц. Ва ўсякім разе ўрад будзе імкнуцца да таго, каб вырашыць гэту задачу не пазней 1993 года. Гэтыя асноватворныя пытанні закладваюцца ў праект Закона рэспублікі аб пенсіённым забеспячэнні, які ў трэцім квартале бягучага года будзе прадстаўлены ў Вярхоўны Савет.

Урад працягвае працаваць над адшуканнем магчымасцей дадатковай сацыяльнай падтрымкі насельніцтва. Як вы ведаеце, 20 мая прынята пастанова па гэтаму пытанню, якая апублікавана. Яна ахоплівае даволі шырокі круг насельніцтва.

Гэта пенсіянеры, многім з якіх будзе дабаўлена ў месяц 25 рублёў. Гэта інваліды Айчыннай вайны і іншыя катэгорыі інвалідаў. Ім будзе павялічана кампенсацыя расходаў на транспартнае абслугоўванне. Інвалідам Айчыннай вайны таксама павялічваецца размер грашовай кампенсацыі, выплачваемай па іх жаданню замест санаторных пуцёвак. Павышаецца аплата сутачных у перыяд практыкі студэнтам.

Вельмі важна адзначыць, што ўводзяцца новыя размеры тарыфных ставак і службовых акладаў работнікам сферы адукацыі і культуры, аховы здароўя і сацыяльнага забеспячэння, архіўных устаноў. У тых работнікаў, каму зарплата ў студзені бягучага года ўжо павышалася, яна ўзрасце ў сярэднім на 30 працэнтаў, у астатніх — на 70—80 працэнтаў. Павялічваюцца супраць раней прадугледжаных выплаты ў сувязі з падаражаннем тавараў дзіцячага асартыменту. Будзе аказана фінансавая падтрымка грамадскім фарміраванням інвалідаў.

Не менш востра стаіць праблема, якая ахоплівае ўсё, што звязана з моладдзю. Гэта такая катэгорыя насельніцтва, якая патрабуе да сябе асаблівых, клапатлівых адносін. І мы імкнёмся максімальна ўлічваць гэтыя акалічнасці ў рабоце ўрада.

Зусім у новай пастаноўцы маладзёжныя праблемы ўзнікаюць у сувязі з пераходам да рынкавых адносін. Што гэта за праблемы? Гэта ўладкаванне моладзі пасля заканчэння школы. Гэта клопаты аб маладых рабочых, студэнцтве і маладых сем'ях. Гэта працоўная дзейнасць пасля службы ў арміі. Ды ўсяго і не пералічыш.

Бо ў цяперашніх умовах многае мяняецца. З'яўляецца, як я ўжо тут гаварыў, рынак працы, узмацняюцца вузкагасразліковыя інтарэсы прадпрыемстваў, мяняецца патрэбнасць у маладых спецыялістах. Ужо сёння відаць, што скароціцца прыём у сярэднія спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя ўстановы, яшчэ больш можа ўскладніцца забеспячэнне жыллём маладых сем'яў. Усе гэтыя праблемы ўрад бачыць і будзе вырашаць, у тым ліку і шляхам падрыхтоўкі неабходных заканадаўчых актаў.

Неабходна паскорыць завяршэнне распрацоўкі і прыняць у Вярхоўным Савеце спецыяльную маладзёжную праграму, дзе канкрэтна вызначыць свае пазіцыі па ўсіх пытаннях маладзёжнай палітыкі. Трэба вярнуцца да пытання, якое я ўжо не раз ставіў, — аб неабходнасці мець у нашай кіраўніцкай структуры міністра па справах моладзі, у якога сфакусіраваліся б усе шматлікія маладзёжныя праблемы і які кантраляваў бы іх рэалізацыю. Урэшце, ад таго, якія клопаты праяўляе грамадства аб моладзі, такая і будучыня гэтага грамадства.

І адно разважанне, так сказаць. агульнага парадку. Цяжка сёння высвятліць, адкуль увайшло ў абарот само паняцце «сацыяльная абарона». Каго і ад чаго абараняць? Кожны чалавек у нашым грамадстве павінен быць паўнапраўным грамадзянінам. І ніхто нікога не павінен ставіць у такое становішча, калі трэба было б яго абараняць.

У нас павінен быць нармальны механізм здаровага сацыяльнага асяроддзя. Любы працуючы чалавек павінен ведаць і быць цвёрда ўпэўнены, што, спыніўшы ў сувязі з узростам сваю працоўную дзейнасць, ён ніякага сацыяльнага дыскамфорту адчуваць не будзе. Тыя, каму яшчэ трэба будзе стаць на працоўную дарогу, павінны таксама адчуваць усебаковыя клопаты дзяржавы як заўтрашнія работнікі.

А ў нас атрымліваецца, што ўсё жыццё чалавек працаваў, ствараў грамадскае багацце, а пастарэў, выйшаў на пенсію, і яго трэба абараняць. Удумаемся: ад каго абараняць? Ад дзяржавы? Дык што ж гэта за дзяржава, калі ад яе трэба абараняць сваіх жа грамадзян?

Нам трэба пакончыць з ваенна-палявой тэрміналогіяй нападу і абароны. Паняцці «малазабяспечаныя», «неабароненыя ў сацыяльных адносінах слаі грамадства» абразлівыя для людзей. Трэба ствараць грамадства людзей сацыяльна дастойных. У канчатковым выніку гэта будзе вызначаць усю будучыню рэспублікі. Таму ўрад у стратэгічным плане будзе імкнуцца да таго, каб пры вашай падтрымцы, пры падтрымцы ўсяго народа рабілася ўсё для таго, каб такі напрамак стаў галоўным у нашай дзейнасці.

Паважаныя дэпутаты!

Наўрад ці тут трэба гаварыць аб тым, наколькі і сацыяльная, і палітычная сітуацыя залежаць ад устойлівага становішча спраў у сельскай гаспадарцы. На жаль, тут усё больш адчуваюцца крызісныя з'явы. У чым яны праяўляюцца? Перш за ўсё ў зніжэнні агульнага аб'ёму вытворчасці прадукцыі. За чатыры месяцы валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі знізілася на 1,5 працэнта. Менш леташняга атрымана мяса і асабліва малака. Дапусцім, гэта яшчэ можна неяк паправіць. Бо паказчыкі ў сельскай гаспадарцы могуць і ў звычайных умовах падвяргацца ваганням.

Але за цяперашнім зніжэннем сельскагаспадарчай вытворчасці стаяць прычыны больш глыбокія. Гаспадаркі пачынаюць страчваць эканамічную цікавасць да нарошчвання сельгаспрадукцыі. Прама скажам, гэта становіцца для многіх справай нявыгаднай. Ды інакш і быць не можа. Бо цяперашнія закупачныя цэны жорстка зафіксаваны, а аптовыя цэны на атрымліваемую тэхніку і іншыя матэрыяльныя рэсурсы нястрымна растуць, прычым без усялякай увязкі з якасцю. Усё гэта, ды плюс яшчэ рост кошту будаўніцтва паставілі многія гаспадаркі на грань разарэння.

Нам трэба адкрытымі вачамі глядзець на тое, чым усё гэта пагражае. Калі мы не выправім становішча ў гэтым сектары эканомікі, то падарвём усю народную гаспадарку, і насельніцтва рэспублікі можа аказацца перад магчымасцю голаду. І справа не ў тым, добры калгасны лад або дрэнны, за якімі формамі гаспадарання будучае. Сёння трэба неадкладна ратаваць тое, што ёсць.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

# ПРАДУХІЛІЦЬ РАЗВАЛ ЭКАНОМІКІ, ЗАБЯСПЕЧЫЦЬ ЛЮДЗЯМ НАДЗЕЙНУЮ САЦЫЯЛЬНУЮ АБАРОНУ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й і 2-й стар.).

Вы ведаеце, што шэраг мер урад прыняў. Але я нікольні не перабольшваю іх значэння. Гэтага мала, хоць і тое, што намечана, — на мяжы нашых магчымасцей. Самі падумайце: вулкан аптовых цэн выбухнуў у адным месцы, а гасіць жа яго прыходзіцца нам. Але гасіць трэба, і мы маем некалькі варыянтаў вырашэння гэтага вельмі важнага пытання. Я павінен вам цвёрда сказаць: як бы ні было цяжка, мы ўсё роўна прымем усе меры да таго, каб эквівалентныя адносіны паміж АПК і іншымі галінамі былі аднаўлены. Пойдзем на ўсё, у тым ліку, калі запатрабуецца, на абвастрэнне адносін з саюзным бюджэтам, але сельскую гаспадарку трэба выцягнуць, трэба ратаваць.

Я і кіраўнікі іншых рэспублік вельмі востра паставілі гэтыя пытанні на нядаўнім пасяджэнні Кабінета міністраў, якое вёў Прэзідэнт. Некаторых гэта прымусіла задумацца. І нарэшце сышліся на тым, што трэба знайсці магчымасць зніжэння цэн на камбікармы, а ў якасці прамежкавай меры, накіраванай на ліквідацыю неэквівалентнага абмену паміж сельскай гаспадаркай і прамысловасцю, часова замарозіць цэны на матэрыяльна-тэхнічныя сродкі.

Цяжка сказаць, наколькі гэта ўдасца. Але мы ад сваёй пазіцыі не адступім, зразумела, з вашай падтрымкай. Будзем шукаць і іншыя магчымасці для таго, каб карэнным чынам папраўіць становішча ў сельскай гаспадарцы, у тым ліку і за кошт выкарыстання часткі валютных адлічэнняў, якія сёння забірае цэнтр.

Але, акрамя мер хуткага рэагавання, патрэбны яшчэ і актыўныя дзеянні па вырашэнню іншых праблем. Гэта перш за ўсё стварэнне ў вёсцы шматукладнай эканомікі, ажыццяўленне зямельнай рэформы. Пакуль што, на жаль, тут зроблены толькі першыя нясмелыя крокі. Павінен вам прама сказаць: мы пераканаліся ў тым, што кансерватызм у гэтых пытаннях, нярэдка прыкрыты ўяўнымі клопатамі аб дабрабыце народа, вельмі і вельмі моцны.

Сялянскіх гаспадарак да цяперашняга часу створана ў нас усяго каля трохсот. Практычна нічога не зроблена на месцах і для таго, каб калгаснікі, рабочыя саўгасаў рэальна адчулі сябе гаспадарамі створаных іх працай сродкаў вытворчасці. Літаральна па пальцах можна пералічыць, дзе зроблены спробы ператварыць хоць бы стратныя калгасы і саўгасы ў асацыяцыі сялянскіх гаспадарак, кааператываў, арцеляў. А ўсім жа нам трэба зразумець і ўсвядоміць, што вёска не можа застацца ў баку ад тых працэсаў, якія ў сувязі з пераходам да рынку разгорнуцца ў іншых галінах, і ў прыватнасці ад прыватызацыі.

Больш інтэнсіўнымі тэмпамі трэба было б, у прыватнасці, весці прыватызацыю ў агародніцтве, бо гэта галіна з-за сваёй спецыфікі, звязанай з высокай доляй ручной працы, можа абыходзіцца параўнальна невялікімі зямельнымі надзеламі. Але пытанне агародніцтва закрануў і таму, што становішча з агароднінай у нас у гэтым годзе набывае вельмі востры характар. Можа здарыцца так, што многія нашы гарады, і перш за ўсё Мінск, будуць наогул без агародніны. Дало аб сабе знаць тое, што гараджане ўхіліліся нават ад той мізэрнай дапамогі, якая раней аказвалася гаспадаркам. Натуральна, гаспадаркі на гэта адрэагавалі. Да цяперашняга часу пасеяна агародніны на 7 тысяч гектараў менш, чым у мінулым годзе. А калі яшчэ не забяспечыць догляд, а затым уборку, то можна ўявіць, што нас чакае.

Гарадскія ўлады і кіраўнікі прадпрыемстваў павінны гэта зразумець, неадкладна заключыць кантракты з гаспадаркамі, у якіх дакладна вызначыць і аб'ёмы паставак агародніны, і ступень удзелу гараджан ва ўсіх работах.

Хачу сказаць, што ўрад надалей будзе з яшчэ большай настойлівасцю займацца стварэннем у вёсцы сапраўды шматукладнай эканомікі, з тым каб кожны селянін мог на справе рэалізаваць свае права свабоднага выбару гаспадарання.

Вядома, было б памылкай вяртацца да той аднаасобнай сялянскай гаспадаркі, якая існавала да калектывізацыі. Але нельга спадзявацца і на тое, што ўсё захаваецца па-старому ў калгасах і саўгасах. Для таго каб і на далей яны заставаліся апорай аграпрамысловага комплексу, неабходна, каб і тут актыўна мяняліся вытворчыя адносіны, набываючы змест, уласцівы рыначнай эканоміцы.

Гэтаму, на наш погляд, будзе садзейнічаць устанаўленне цвёрдага дзяржзаказу на пастаўку сельскагаспадарчай прадукцыі хоць бы на бліжэйшыя пяць гадоў. Усё, што звыш яго — свабодны продаж па цэнах рынку. У многім гэта дазволіць зняць і стратнасць шэрагу гаспадарак.

Вялікая работа наперадзе і па паляпшэнню забеспячэння насельніцтва прамысловымі таварамі. На жаль, як і ў іншых галінах, тут ёсць велізарныя цяжкасці. Галоўная з іх заключаецца ў тым, што ў краіне практычна разбурана сістэма паступлення сыравіны, у тым ліку і па імпарту. Асабліва хваравіта рэагуе на гэта наша лёгкая прамысловасць, дзе задавальненне патрэбнасці ў некаторых відах сыравінных рэсурсаў, такіх, напрыклад, як воўна, практычна поўнасцю залежыць ад імпарту. Нягледзячы на шматлікія рашэнні саюзнага ўрада па гэтаму пытанню, з неабходных нам як мінімум 160 мільёнаў інвалютных рублёў выдзелена, смешна сказаць, усяго 10 мільёнаў.

У гэтых умовах урад рэспублікі прымае шэраг неадкладных мер, у тым ліку па пераключэнню беларускіх прадпрыемстваў, якія выпускаюць хімвалакно, перш за ўсё на ўнутраныя пастаўкі. Устанаўліваюцца прамыя кантакты непасрэдна з прадпрыемствамі і арганізацыямі за межамі рэспублікі, якія могуць даць нам неабходныя рэсурсы. І ўсё ж мы далёкія ад таго, каб сказаць, што вычарпаны ўсе магчымасці і прыняты ўсе меры. Нас не можа, у прыватнасці, задаволіць работа Мінлегпрома па арганізацыі самазабеспячэння сыравінай. Апарат гэтага міністэрства, нягледзячы на тое, што многія функцыі ў сувязі з самастойнасцю прадпрыемстваў ад яго адышлі, усё яшчэ даволі-такі шматлікі. І ён павінен быў бы прыняць на свае плечы значна большыя клопаты аб тым, як дапамагчы прадпрыемствам рэсурсамі.

Сёння для іх, асабліва такіх буйных, як Мінскае камвольнае, Брэсцкае і Віцебскае дывановыя, Жлобінскае аб'яднанне штучнага футра, гэта пытанне жыцця і смерці. Бо пад пагрозай застацца без работы могуць аказацца шматтысячныя калектывы, за якімі лёс іх сем'яў. Нам здаецца, што кіраўніцтва Мінлегпрома не ўсвядоміла ўсёй драматычнасці ўзнікаючай сітуацыі. Часта шматлікія зарубежныя паездкі міністра М. Ц. Гулева і яго намеснікаў канкрэтнай карысці не даюць. Да таго ж, ён выбраў вельмі своеасаблівы шлях: пры любым перабоі ў забеспячэнні—пісьмо ва ўрад, маўляў, я сігналізую, а вы там вырашайце.

Урад неаднаразова папярэджваў кіраўнікоў Мінлегпрома аб тым, што занятая імі ў такіх важных пытаннях пазіцыя, мякка кажучы, негрунтоўная. Сёння нагадваю пра гэта яшчэ раз: калі так будзе працягвацца, паставім пытанне аб службовай адпаведнасці кіраўнікоў галіны.

Я гавару гэта не для таго, каб драматызаваць сітуацыю. Справа ж вось у чым. Можа, тое становішча, якое сёння складваецца з забеспячэннем таварамі, неяк яшчэ можна перажыць, але калі не прыняць неадкладныя меры, то заўтра гэта прывядзе да самых цяжкіх вынікаў.

Зніжэнне вытворчасці па многіх відах падукцыі пачалося ўжо. За чатыры месяцы рэзка знізіўся выпуск тканін, панчошна-шкарпэткавых вырабаў, дываноў, абутку, радыёпрыёмнікаў, тэлевізараў, матацыклаў, веласіпедаў, школьных сшыткаў, мыла і шэрагу іншых штодзённа неабходных вырабаў. Адпаведна знізілася і пастаўка іх у гандаль. Скажам, дзіцячых калготак — на 17 працэнтаў, жаночых — амаль напалавіну. На 6 працэнтаў зменшылася паступленне мужскіх шкарпэтак і скуранога абутку масавага пашыву, на 51 працэнт — сінтэтычных мыйных сродкаў. Лічбы проста ашаламляльныя.

Але давайце паглядзім і з іншага боку. Тых жа панчошна-шкарпэткавых вырабаў за чатыры месяцы выраблена амаль 54 мільёны пар. Гэта амаль па 5 пар на жыхара — і на дарослага, і на дзіця. Але паспрабуйце купіць у магазіне. Рэдка каму ўдасца гэта зрабіць з першага, а то і з трэцяга заходу. Мы ва ўрадзе аналізавалі сітуацыю і прыйшлі да цвёрдага пераканання: многае замыкаецца на таваpaправоднай сетцы. У нас склалася цвёрдае перакананне, што шлях тавараў ад работніка вытворчасці да спажыўца выпаў з-пад кантролю.

Трэба наладзіць сістэмны кантроль за станам эканомікі. І мы думаем, што на гэтым этапе павінен быць створаны спецыяльны кантрольны орган пры Дзяржэканомплане. Трэба надзяліць яго шырокімі паўнамоцтвамі для спынення любых процізаконных дзеянняў у гэтай сферы і для барацьбы з ценявой эканомікай.

І наогул, кантроль сёння патрэбен, як ніколі. І з боку праваахоўных органаў, пракуратуры, і з боку мясцовых Саветаў, а таксама шматлікіх службаў Мінгандлю. Можна, вядома, міністру ўнутраных спраў У. Д. Ягораву, пракурору рэспублікі Г. С. Тарнаўскаму суцяшаць сябе тым, што ў нас няма ніякага эканамічнага сабатажу. Але ж гэта як паглядзець, з якога пункту гледжання. Калі лічыць, што эканамічны сабатаж — гэта супраціўленне нейкай шайкі жулікаў, згрупаваных у адзіную арганізацыю, то, магчыма, гэта і так. Адзінай шайкі, напэўна, не існуе. Але калі вымяраць звычайнымі жыццёвымі меркамі, якія зводзяцца да таго, што ў магазіне нельга купіць простую майку, трусы, чаравікі і нават за неймаверную цану не бог ведае які касцюм, зусім не фірмы П'ера Кардэна, а іх у нас выпрацоўваецца сотні тысяч і мільёны адзінак, то, паўстае пытанне, як жа ўсё гэта называецца?

Таму трэба лепш працаваць, лепш змагацца з эканамічнай злачыннасцю ва ўсіх яе праяўленнях — няхай гэта спекуляцыя, карупцыя, крадзеж і злоўжыванне, словам,— з усім тым, што яшчэ больш абцяжарвае і без таго цяжкае жыццё чалавека.

Тым больш, што за апошні час работнікам праваахоўных органаў і зарплата павышана, і колькасна яны значна выраслі. А вось належнай аддачы пакуль што няма. Пагледзіце, колькі ў нас штогод гіне людзей у дарожных катастрофах. Тысячы, нават дзесяткі тысяч. Няўжо нельга павысіць бяспеку? Мы ж навят тое, што мелі тут, разгубілі. Раней, бывала, у Мінску пешаходы стаяць, чакаюць сігналу святлафора, таму што ведаюць: за парушэнне правіл будзе штраф. Цяпер і гэтага часта няма, з парушальнікамі міліцыя проста не хоча звязвацца.

І, нарэшце, яшчэ адна праблема, на якой неабходна спыніцца. Калі мы сапраўды маем намер не толькі нармалізаваць наша жыццё, але і вярнуць рэспубліку ў лона сусветнай цывілізацыі, нам неабходна пастаянна, з дня ў дзень, што называецца не апускаючы рук, клапаціцца аб адраджэнні нашай культуры. Я ўпэўнены, што без культуры ніякія ўказы і законы не будуць дзейнічаць. Маральнае выхаванне — гэта аснова выхавання здаровага грамадства.

Вядома, эканоміку трэба ўзнімаць, трэба выводзіць яе з крызісу, з таго разладжанага стану, у якім яна ў нас апынулася. Але пачынаць трэба з культуры, маралі, таму што калі людзі прывыклі красці і заставацца пры гэтым беспакаранымі, то якія эканамічныя законы будуць працаваць?

Нам неабходна ўзнімаць прэстыж інтэлігенцыі. Інтэлігенцыя ж — гэта такі ж працоўны клас, як і рабочыя, сяляне. Тут не можа быць ніякага проціпастаўлення. Неабходна зрабіць так, каб чалавек ганарыўся сваёй адукацыяй, ганарыўся тым, што ведае больш, чым сусед. Адукаваны чалавек павінен мець і больш правоў уздзейнічаць на грамадства ў інтарэсах яго перабудовы.

Таму нам неабходныя рашучыя дзеянні, нацэленыя як на ахову культуры ад націску камерцыі, які ўжо цяпер адчуваецца, а з пераходам да рынку можа набыць яшчэ большыя размеры, так і на вывядзенне яе з цяперашняга жабрацкага стану. Нават у тым надзвычайным бюджэце, які мы будзем разглядаць на гэтай сесіі, доля асігнаванняў на культурныя патрэбы ні ў якім разе не павінна быць урэзана. Усё, што хочаце, толькі не гэта.

Паважаны парламент!

Мне хацелася данесці да вас усю нашу заклапочанасць цяперашнім практычна крызісным станам. Рэалізацыя тых мер, якія намячаюцца ў праграме і якія распрацаваны з актыўным удзелам большасці дэпутатаў, дазволяць — і мы ў гэтым пераканаы — у самы кароткі час папраўіць становішча, маючы на ўвазе: аднавіць у трэцім квартале бягучага года сярэднясутачныя аб'ёмы вытворчасці ў аб'яднаннях і на прадпрыемствах спажывецкага комплексу, стабілізаваць пакупную здольнасць насельніцтва, нармалізаваць да канца бягучага года забеспячэнне харчаваннем, медыкаментамі, таварамі першай неабходнасці.

У сваім дакладзе я спрабаваў адлюстраваць тое, што хвалюе ўрад, даць нашы ацэнкі і бачанне праблем. Наколькі гэта ўдалося — вам меркаваць. Адзінае, на што я разлічваю, гэта тое, што ўсё гэта будзе ўспрынята вамі з разуменнем і паслужыць асновай для шырокага абмену думкамі, для выпрацоўкі такога курсу нашых сумесных дзеянняў, які прадухіліць развал эканомікі, унясе не толькі элементы стабільнасці, але і дазволіць у далейшым ісці ў патрэбным для рэспублікі напрамку.

# АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

## БЕЛАРУСКАЯ УНІВЕРСАЛЬНАЯ БІРЖА: ПЕРШЫЯ ТОРГІ—СЁННЯ

**Сотні і сотні разоў на розных узроўнях канстатавалася ўжо наяўнасць крызісу ў эканоміцы краіны. Аднак ад простай канстатацыі данага факта працоўным калектывам лягчэй не робіцца. Сёння кожны з іх павінен вырашаць практычную задачу: як ва ўмовах татальнага дэфіцыту самому здабыць матэрыяльна-тэхнічныя рэсурсы, каб падтрымаць вытворчасць на неабходным узроўні.**

І вось сярод масы невясёлай інфармацыі з'явіўся светлы пробліск: створана нарэшце ў рэспубліцы арганізацыя, якая зможа дапамагчы прадпрыемствам вырашыць праблему матэрыяльнага дэфіцыту, звядзе разам вытворцаў і трымальнікаў рэсурсаў. Не сакрэт, што іх, гэтых рэсурсаў, і сёння ў нашай рэспубліцы і краіне нямала. Але мы, хоць і заяўляем аб сваёй гатоўнасці працаваць ва ўмовах рынку, пакуль што не навучыліся правільна, калі хочаце, цывілізавана распараджацца матэрыяльнымі каштоўнасцямі. Дастаць іх са складаў, іншых усемагчымых «заначак» — і ёсць задача біржы. Брокеры, яе работнікі, якраз і з'яўляюцца тымі спецыялістамі, якія ведаюць, дзе і колькі ляжыць без усялякай карысці «лішніх» матэрыялаў і сыравіны, іх цану і якасць. У хуткай і дакладнай апрацоўцы разнастайнай інфармацыі ім дапамагае першакласная вылічальная тэхніка.

...Сёння з самай раніцы ў комплексе сучасных будынкаў на скрыжаванні вуліцы Казінца і Слуцкай шашы ў Мінску назіраецца прыкметнае ажыўленне, поўнае ўнутранай напружанасці і энергіі. Гэта многія дзесяткі дзелавых людзей, якіх паслалі сюды іх прадпрыемствы, пачалі торгі, арганізаваныя біржай. Думаецца, спецыялісты-бізнесмены апраўдаюць надзеі сваіх працоўных калектываў, вернуцца дамоў з падпісанымі кантрактамі на пастаўкі, якія змогуць ажывіць дзейнасць фабрык і заводаў.

Паколькі торгі пачаліся ўжо, можна прыадкрыць, так сказаць, «сакрэт фірмы»: аб'ём прапануемай для рэалізацыі прадукцыі складае прыкладна 10 мільёнаў рублёў. Наменклатура самая разнастайная: прадаўцы прапануюць ацяпляльныя агрэгаты, вырабы з труб, трансфарматары, вылічальныя персанальныя машыны, размнажальную апаратуру, дэфіцытныя будматэрыялы, будаўнічую тэхніку і многае іншае. Гэта, вобразна кажучы, і ёсць тое дзелавое поле, на якім нашым беларускім бізнесменам даецца магчымасць праявіць сваё ўменне працаваць ва ўмовах сапраўднага рынку. Вельмі спадзяёмся, што першы блін для іх не акажацца камяком, што свой шанц яны не ўпусцяць.

Аб тым, як працавалі нашы дамарослыя біржавікі, як гандлявалі ўдзельнікі торгаў, «Звязда» раскажа ў адным з бліжэйшых нумароў.

## ПАЧАТАК КЛАДЗЕ САНТЭХНІКА

**МАГІЛЁЎ. (А. Санчук). Адбыліся прэзентацыя і разам з ёю першыя торгі на Магілёўскай рэгіянальнай таварна-сыравіннай біржы.**

Напачатку заключаны 4 дагаворы на куплю пыласосаў і сантэхнічных вырабаў. Гэта нямнога. Але дырэктар біржы В. Асіпенка лічыць, што першы блін у новай справе не атрымаўся камяком. Большасць удзельнікаў торгаў прыглядаліся што да чаго, спасцігаючы сакрэты біржавага гандлю і заключэння здзелак. А навыкі гэтыя магілёўскім пачынаючым бізнесменам хутка спатрэбяцца. Карэспандэнт «Звязды» ўжо атрымаў запрашэнне на прэзентацыю ў горадзе яшчэ адной біржы. Яна пачне дзейнічаць у наступным месяцы. Мяркуючы па ўсім, паміж двума нованароджанымі ўзнікне сур'ёзная канкурэнцыя. Тым больш, як паказвае вопыт краін з развітым рынкам, дзве аднолькавыя па характары здзелак біржы ў адным горадзе — гэта ўжо занадта.

## А АКАДЭМІЯ ЎСЁ Ж БЫЛА...

СМАРГОНЬ. **(А. Дук).** Цікавай і крыху незвычайнай справай заняліся вучні 4-й сярэдняй школы. У сваім гісторыка-краязнаўчым музеі яны афармілі экспазіцыю пад назвай «Смаргонская мядзведжая акадэмія».

Вучні зрабілі макет клеткі—дакладна такой, у якой сотню гадоў назад дрэсіравалі касалапых, драўляныя макеты правадніка і самога мішкі з бервяном на спіне. Экспазіцыя музея неўзабаве папоўніцца: ёсць ідэя ўзнавіць сялянскую хату, у якой у 1812 годзе адпачываў генерал-фельдмаршал Міхаіл Іларыёнавіч Кутузаў.

## ЯК СПРАВЫ, ФЕРМЕР?

СВЕТЛАГОРСК. **(У. Кохна).** У апошні час знаходзіцца ўсё больш тых, хто кідае горад з утульнымі кватэрамі і едзе працаваць у вёску, становіцца фермерам. Так вырашылі зрабіць і гараджане муж і жонка Мікалай Рыгоравіч і Валянціна Васільеўна Крупені. Яны прыехалі ў вёску Яланы саўгаса «Светлагорскі». Падалі ў Баравікоўскі сельскі Савет заяву з просьбай выдзеліць зямлю для вядзення сялянскай фермерскай гаспадаркі. Савет падтрымаў гэту ініцыятыву і выдзеліў ім 14 гектараў. Як зазначылі фермеры, нягледзячы на цяжкасці і праблемы, якіх узнікае нямала, вяртацца назад у горад не збіраюцца. На падворку ў іх зараз 5 кароў, 6 цялят, на выдзеленай зямлі пасеялі ячмень, авёс, іншыя культуры. Купілі трактар, зараз збіраюцца будаваць новы хлеў, каб павялічыць свой статак. Наогул, справы ідуць угору.

Дарэчы, сёння ў Светлагорскім раёне налічваецца пяць арандатарскіх і тры фермерскія гаспадаркі.

● СТОП-ФАКТ ● СТОП-ФАКТ ● СТОП-ФАКТ

## ЭКСТРАСЕНС У ГАСЦЯХ У ТЭЛЕГЛЕДАЧОЎ

**МІНСК. З чарговай паездкі ў ФРГ вярнуліся псіхолаг НВА «Цэнтр» прэзідэнт Беларускай асацыяцыі экстрасенсаў В. І. Конанцаў і яго менеджэр Д. П. Ціхамолаў. Як і ў мінулыя разы, чарговы іх вояж за мяжу вызначаўся цікавымі сустрэчамі, кантактамі з грамадскасцю, правядзеннем сеансаў лячэння. І як вынік — дамоўленасць з прадстаўнікамі дзелавых колаў, грамадскасцю ФРГ аб тым, што германскі бок гатоў прыняць на аздараўленне 170 дзяцей з чарнобыльскай зоны. Аплату праезду бярэ на сябе часткова мінскае навукова-вытворчае аб'яднанне «Цэнтр», а часткова грамадскасць ФРГ.**

Свае сеансы за мяжой Васіль Іванавіч праводзіў у цесным кантакце з медыкамі. Яны з цікавасцю ўспрынялі яго бескантактны метад уздзеяння на пацыентаў, у тым ліку і на адлегласці. Незабыўнае ўражанне, у прыватнасці, пакінула сустрэча з прафесарам дзіцячага кардыялагічнага цэнтра ў Мюнхене Шэоберам. Яшчэ ў час мінулагодняй паездкі В. І. Конанцава ў ФРГ прафесар папрасіў экстрасенса правесці серыю сеансаў на адлегласці з двухгадовай дзяўчынкай, у якой парок сэрца ў цяжкай форме. Шэобер быў упэўнены, што дні маленькай пацыенткі злічаны. Можа таму Васіль Іванавіч і згадзіўся на гэты эксперымент, бо звычайна ён не працуе з хворымі на сэрца. І здарыўся цуд. Дзяўчынка не толькі засталася жыць, але ў яе палепшыўся стан здароўя.

І зусім ужо неверагодна, што па просьбе нямецкіх вучоных і медыкаў Конанцаў спрабаваў лячыць жывёл, нават птушак.

Цікавасць да гэтага чалавека расце. І вось Васіль Іванавіч згадзіўся сустрэцца з тэлегледачамі ў чарговым выпуску «Час пісьма», які выйдзе ў эфір па Беларускай тэлепраграме 26 мая ў 12 гадзін 50 мінут.

**Выпуск падрыхтавалі: У. ГОЙТАН, А. КОКТЫШ, А. СЛАНЕЎСКІ.**

# Аб адмене падатку з продажаў

У мэтах узмацнення сацыяльнай абароны насельніцтва ў адпаведнасці з сумеснай заявай кіраўнікоў вышэйшых дзяржаўных органаў Саюза ССР і саюзных рэспублік «Аб неадкладных мерах па стабілізацыі абстаноўкі ў краіне і пераадоленню крызісу» і на падставе дагаворанасці ўрадаў СССР і рэспублік Кабінет міністраў СССР пастановай ад 19 мая г. г. адмяніў спагнанне падатку з продажаў па сацыяльна значных таварах штодзённага попыту і паслугах насельніцтву згодна з пералікам.

Урады рэспублік дапаўняюць пералік тавараў і паслуг, якія прадугледжаны дадаткам да гэтай пастановы, зыходзячы з рэгіянальных асаблівасцей і эканамічных умоў.

**Пералік тавараў штодзённага попыту і паслуг насельніцтву, якія не падлягаюць абкладанню падаткам з продажаў**

**Харчовыя тавары**

Мяса і мясапрадукты (*)
Малако, масла, сыры, марожанае, тварог і іншая малочная прадукцыя
Яйкі, яечны парашок, меланж
Маргарынавая прадукцыя, тлушчы кулінарныя
Сала топленае і іншыя харчовыя тлушчы, маянэз
Хлеб і хлебабулачныя вырабы
Крупы і крупяныя вырабы
Мука, крухмал
Макаронныя вырабы
Чай, кава, какава і напіткі з іх
Соль
Бульба і прадукты яе перапрацоўкі
Агародніна, бахчавыя, фрукты, вінаград, ягады і прадукты іх перапрацоўкі (акрамя вінаробнай прадукцыі)
Рыба і рыбапрадукты (*)
Кулінарныя вырабы, уключаючы паўфабрыкаты (*)
Безалкагольныя напіткі, мінеральныя воды, піва
Прадукты дзіцячага харчавання, у тым ліку імпартнай вытворчасці
Прадукцыя грамадскага харчавання ўласнай вытворчасці, уключаючы прадукцыю, якая рэалізуецца праз рознічную гандлёвую сетку (*)
Кандытарскія тавары (акрамя шакаладных кандытарскіх вырабаў і каробачнага асартыменту, імпартных кандытарскіх вырабаў)

**Тавары лёгкай прамысловасці айчыннай вытворчасці**

Тавары дзіцячага асартыменту
Рабочае адзенне
Абутак палімерны (гумавы)
Абутак валюшны
Бялізна трыкатажная і швейная, уключаючы бялізну пасцельную і сталовую
Панчошна-шкарпэткавыя вырабы
Пальчаткі і рукавіцы трыкатажныя

**Тавары культурна-бытавога і гаспадарчага прызначэння**

Школьныя сшыткі, дзённікі, альбомы для рысавання і чарчэння, сшыткі для нот, расклады для ўрокаў і іншыя аналагічныя вырабы, канцылярскія тавары для дзяцей, падручнікі школьныя і піянерская атрыбутыка
Веласіпеды дарожныя падлеткавыя і дзіцячыя, спортролеры, самакаты, аўтамабілі і трактары педальныя, манежы, каляскі дзіцячыя і г. д.
Мэбля для дзяцей, санкі, лыжы дзіцячыя
Цацкі, ёлачныя ўпрыгажэнні
Фільмаскопы, дыяфільмы і іншыя фотакінатавары для дзяцей
Грампласцінкі дзіцячай тэматыкі
Спартыўны і турыстычны інвентар дзіцячага і школьнага асартыменту
Запалкі
Сінтэтычныя мыйныя сродкі
Сумкі, пакеты поліэтыленавыя
Крыніцы току і лямпы асвятляльныя
Санітарна-гігіенічная папера, сурвэткі папяровыя
Мыла туалетнае і гаспадарчае
Зубная паста, зубны парашок, вазелін
Парфумерна-касметычныя тавары дзіцячага асартыменту
Медыкаменты і вырабы медыцынскага прызначэння
Газа, пячное паліва і дровы, вугаль, газ, электраэнергія, адпускаемыя насельніцтву
Паслугі, аказваемыя насельніцтву: жыллёва-камунальныя і эксплуатацыйныя (уключаючы кватэрную плату), паштовыя, тэлеграфныя, тэлефонныя сувязі
Паслугі па ўтрыманню дзяцей у дашкольных установах

(*) Акрамя тавараў, рэалізуемых насельніцтву па дагаворных (свабодных) цэнах, прадугледжаных у дадатках да пастаноў Савета Міністраў СССР ад 12 лістапада 1990 г. № 1134 і Кабінета міністраў СССР ад 19 сакавіка 1991 г. № 105.

## Госць «Звязды»

# «НАСТАЎНІКІ ПАВІННЫ ВЫЖЫЦЬ»,—

**сказаў, як бы падводзячы рэзюме Усесаюзнаму конкурсу «Настаўнік года-91», выкладчык фізікі мінскай сярэдняй школы № 49 Валерый Аляксандравіч Гербутаў ужо ў якасці яго пераможцы.**

**— Пераможац, настаўнік № 1, педагог з імем. Лаўры, кветкі, пашана...**

— Для мяне настаўнік № 1— гэта перш за ўсё абавязак дапамагчы нашаму настаўніцтву, на якое па-ранейшаму глядзяць як на людзей нейкага другога гатунку. Даўно ж абяцалі павысіць зарплату—павысілі толькі тады, калі ўжо ўсім астатнім катэгорыям працуючых павысілі ў другі раз. У рабочых, калгаснікаў, нават інжынераў ёсць свае заказы, шэфскія сувязі, бартэрныя здзелкі, падсобныя гаспадаркі. Што ёсць у настаўніка? А, між іншым, мы выпускаем людзей, ад якіх залежыць лёс не толькі нашай культуры, а і ўсіх станоўчых перамен, якія задумваюцца цяпер. Паверце, гэта не перабольшванне.

**— Павага да настаўніка пачынаецца ўсё ж з павагі настаўніка да самога сябе. Чаго, мусіць, нельга сказаць пра цяперашніх настаўнікаў.**

— Настаўнікаў ад Бога шмат. Вельмі шмат, бяруся запэўніць, але раскрываюцца ў сваёй дзейнасці нямногія. І мэта праведзенага конкурсу — аб'явіць вайну ўсялякай шэрасці і абыякавасці, падцягнуць адстаючых настаўнікаў да ўзроўню настаўнікаў-харашыстаў. Калі я магу вось так пачаць урок, то чаму не можа гэтак жа пачаць яго любы іншы настаўнік. Толькі разняволіўшыся ад зазубраных схем і догм правядзення ўрока, пазакласнай работы, у адносінах з вучнямі, настаўнік выйдзе на той узровень выкладання свайго прадмета, які ад яго даўно чакаюць. У рыначных адносінах не застанецца месца для настаўніка, які адбывае павіннасць. Рынак прымушае чалавека, у тым ліку і педагога, трымацца за сваё месца, прыслухоўвацца да думкі сваіх вучняў і ўвесь час клапаціцца аб павышэнні сваёй кваліфікацыі.

**— Але згадзіцеся, гучыць гэта сумна — беспрацоўныя настаўнікі...**

— Згодзен. І нават па вялікаму чалавечаму рахунку гэта ў нечым антыгуманна. І па ідэі гэтага не павінна быць. Але не павінна быць і шэрасці ў выкладанні прадмета, фанабэрыі ў адносінах да вучня. Я катэгарычна не прызнаю палажэння: праўда заўсёды на баку настаўніка. Калі ў педагогаў пытаюцца, што яны робяць на ўроку, большасць адказвае—як што, вучу. І толькі абсалютная меншасць скажа: вучу і вучуся. Я сам не адразу трапіў у школу, ды і з нашага роду нікога з педагагічным ухілам не было і невядома, ці будзе. Да сваёй работы ў школе выкладаў у інстытуце, а потым, калі пераехалі з Брэста ў Мінск, прыйшлося пайсці ў школу—уладкавацца ў ВНУ не было магчымасці. А потым зразумеў—гэта маё, на ўсё астатняе жыццё. Дык вось, прыйшоў у 49-ю школу выкладчыкам фізікі. І адразу ў выпускны клас. І тут жа шквал падазроных позіркаў і пытанняў. Ведаеце, я проста пайшоў насустрач. І цяпер не саромеюся пытацца ў сваіх: як прайшоў урок, якую ацэнку сабе і мне паставіце? І трэба, каб гэта пытанне не завісала рытарычна ў паветры.

Я не баюся таго, што ў мяне на ўроках шумна, дзеці спрачаюцца адзін з адным і са мной, даказваюць сваю пазіцыю—гэта правільна. Гэта неабходна. Хіба ж не павінна быць у чалавека свая пазіцыя? Хай сабе і памылковая. Галоўнае, каб вучань сам гэта зразумеў, а не каб настаўнік яму сказаў: «Сядайце, два». Вось у чым навучальны працэс. Без жывога кантакту гэты працэс немагчымы.

**— Валерый Аляксандравіч, а на конкурсе ў вас атрымаўся гэты кантакт з залай?**

— Мне здаецца, што быў такі кантакт. Другое заданне конкурсу было на пачатак урока. Арыгінальны пачатак. Трэба сказаць, што гэта любімае ў маёй педагагічнай практыцы. А тут адчуваю — пачаў губляцца. Злосць такая! І раптам недзе ўнутрана зразумеў, што дыхнула з залы цёплым паветрам— ёсць кантакт! Я тады падумаў: павінен выйграць.

**— І выйгралі.**

— Наіўна думаць, што гэта перамога— толькі мая, асабістая. Я не ўстанавіў рэкорд на педагагічнай дыстанцыі, і, мусіць, сутнасць у мяне не рэкардсменская. Раней, ды і цяпер, шмат цікавых прапаноў. Але я педагог. Творчая адзінка. У мяне ж столькі задумак, як я магу абысціся без свайго класа, без сваіх урокаў. Мая справа — творчая педагогіка. Хоць, згадзіцеся, гэта неяк смешна гучыць: бо педагогіка і мае на ўвазе творчы падыход да справы. Проста ў маім разуменні творчая педагогіка — гэта педагогіка творчых людзей, настаўнікаў, якія заўсёды ў пошуку, у якіх не можа быць аднолькавых урокаў. Творчая педагогіка—як вясна для душы, гэта стан душы. Вечная вясна, калі хочаце. Калі сам квітнееш і абавязаны дапамагчы расквітнець дзецям. Хоць уся наша настаўніцкая дзейнасць, шчыра кажучы, мала падобная на вясну. Але мы самі выбралі свой хлеб і свой крыж.

Калі ў нас спыталі пра тры асноўныя прынцыпы настаўніцтва, я прапанаваў такія: вучань з табою роўня, ніколі не гавары, што заўсёды на тваім баку праўда, вучыся ў іншых. Дарэчы, на адным з абласных настаўніцкіх семінараў я прапанаваў свой варыянт дзелавой гульні. Праз некаторы час мы сабраліся зноў. І адзін малады настаўнік паказаў гэты варыянт, але ўжо са сваімі дэталямі, якія я з удзячнасцю прыняў. «Учиться, право, не грешно».

**— Цяпер шмат гавораць пра выхаванне ў нашага юнацтва лжывых ідэалаў. Пра незайздросную ролю ў гэтым школы.**

— Законы фізікі не могуць быць ілжывымі. Што ж датычыць выкладання як выхавання, то асабіста я ніколі не ставіў сваёй мэтай «цiснуць» на вучня. Няхай сам вырашае, што яму бліжэй: палітінфармацыя пра амерыканскіх беспрацоўных ці размова аб выбары будучай прафесіі.

**— Вашы вучні выбіралі, канешне, другое?**

— Не, не сказаў бы так катэгарычна. Ламаць не будаваць. Усё гэта вельмі складана. Кожны чалавек павінен стаць прафесіяналам—вось гэта аднназначна. І не абавязкова толькі ў фізіцы. Хоць у мяне даволі многа вучняў, якія звязалі свой лёс з фізікай, пайшлі на фізічны факультэт, факультэт радыёфізікі і электронікі БДУ, сталі педагогамі. Некаторыя ўжо самі даўно выкладаюць.

**— Вы атрымалі, мусіць, самую ганаровую настаўніцкую ўзнагароду—«Хрустальны пелікан». Ці самую галоўную ў вашым жыцці?**

— Самая галоўная ўзнагарода—вочы вучняў на ўроку фізікі. Ім цікава! Якая ўзнагарода можа быць большай?

**— Ну, а вашы бліжэйшыя планы ў якасці настаўніка-91?**

— Педагагічны дэсант. Паспеў правесці перагаворы з Міністэрствам адукацыі рэспублікі, саветам дырэктароў сярэдніх школ, творчым аб'яднаннем настаўнікаў. Дэсантавацца паедзем у Расію. Абмен вопытам. Правядзенне адкрытых урокаў у самых розных класах і школах. Самая сапраўдная настаўніцкая вучоба.

**— А вы ўпэўнены ў поспеху сваёй справы?**

— У нас у рэспубліцы Міністэрства адукацыі шмат зрабіла для ўсяго настаўніцтва. У нас ёсць умовы, каб настаўнікам вучыцца. Я думаю, што мы можам і павінны выжыць у будучым сапраўдным рынку.

**Замест рэзюме:** Валерыя Аляксандравіча добра ведалі задоўга да конкурсу. Дзеці ад яго ў захапленні: «цяжкія» падлеткі, якія думаюць толькі аб тым, як бы хутчэй «спіхнуць» школу, раптам пачынаюць цікавіцца броўнаўскім рухам. Згадзіцеся, цуд тут ні пры чым. Цяжкая настаўніцкая праца, у якой знаходзіцца месца для творчасці.

**А. КОКТЫШ.**

